ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1964 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Англіі: Rev. J. Hermanovič, Marian House. Holden Ave. London, N. 12. Gt. Britain.

У Задзіночаных Штатах: Mr. Antony Bielenis. 2042 W. St. Paul Ave. Chicago, 47. Ill. U.S.A.; Mr. B. Danilovich. 303 Hovard Str. New Brunswick. New Jersey. U.S.A.; Mr. G. Gosciejew 3416 W. 49-th Str. Cleveland, 2. Ohio. U.S.A.; Mr. Ch. Najdziuk. 833½ N. Coronado St Los Angeles, Calif. U.S.A.; Mrs. J. Kachanovska, 8 St Mark's Pl., New York 3, N.Y., U.S.A.

У Нямеччыне: Mgr. U. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвертаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

## ЗЬМЕСТ

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XII ТРАВЕНЬ—ЧЕРВЕНЬ 1964 № 84

# Дэкрэт II-га Ватыканскага Сабору
## аб сродках грамадзкай лучнасьці

(Працяг).

*13. Абавязкі пастыраў і вернікаў*

Усе сыны Царквы няхай згодна імкнуцца да таго, каб сродкі грамадзкай лучнасьці у даных абставінах былі выкарыстаны з посьпехам у розных галінах апосталяту згодна з вымогамі часу, неадкладна і са знаўствам дзела, асабліва ў тых краінах, дзе маральны і рэлігійны ўзровень вымагае, каб папярэджваць шкодныя ініцыятывы.

Таму Пастыры такжа ў гэтай дзялянцы няхай выканаюць свой абавязак, які сьцісла лучыцца з іхным абавязкам звычайнага навучаньня.

Сьвецкія-ж людзі, якія маюць дачыненьне з гэтымі сродкамі, няхай стараюцца сьведчыць аб Хрысьце, перадусім выконываючы кампэтэнтна і ў апостальскім духу свае обавязкі, а нават такжа непасрэдна супрацуючы, кожны паводле сваей магчывасьці, з душпастырскай дзейнасьцю Царквы, няхай дапамагаюць у тэхнічных, эканамічных, культурных і мастацкіх справах.

*14. Дзейнасьць каталікоў.*

Перадусім трэба повялічыць добрасумленную прэсу. А каб чытачы маглі поўнасьцю праняцца хрысьціянскім духам, неабходна стварыць і пашырыць сапраўдную каталіцкую прэсу, г. зн. такую, якая залежала-б ад царкоўнай улады і была пашыранай праз яе ці праз сьвецкіх каталікоў. Мэта такой прэсы: фармаваць, умацоўваць і пашыраць такую публічную апінію, што адносіцца з пашанай да права натуры, да каталіцкага навучаньня і да законаў маралі. Трэба такжа разпаўсюджваць і выясьняць факты з жыцьця Царквы згодна з праўдай, а вернікам напомніць аб патрэбе чытаць і пашыраць сваю каталіцкую прэсу, каб прывыкалі афармляць свой хрысьціянскі сьветагляд адносна ўсіх здарэньняў.

Усялякім спосабам трэба распаўсюджваць і падтрымоўваць такую прадукцыю і такія паказы фільмаў, якія давалі-б прыстойную разрыўку для духа — асабліва калі йдзе аб моладзь — і якія адзначаліся-б культурнымі і мастацкімі вартасьцямі. Усё гэта дасца асягнуць пад умоваю, што будзе супрацоўніцтва і каардынацыя натугі і ініцыятывы паміж прадуцэнтамі і чэснымі прадаўцамі, а такжа тады, калі прыхільная крытыка і адпаведныя ўзнагароды заахвоцяць да добрых фільмаў, а кіно-салі апынуцца ў руках каталікоў ці іншых чэсных людзей і будуць падтрымоўваць адны другіх і зьвязывацца з сабой адміністрацыйна.

Адначасова трэба з посьпехам падтрымоўваць адпаведныя праграмы радыя і тэлевізіі, асабліва тыя, што добра дапасаваны да сямейнага асяродзьдзя.

Трэба дбайліва і кампэтэнтна распаўсюджваць каталіцкія праграмы, якія прыцягівалі-б слухачоў і глядачоў да царкоўнага жыцьця, а іхныя душы насычывалі рэлігійнай праўдай. Там, дзе вымагала-б гэтага патрэба, з цэлай пільнасьцю трэба прылажыцца да пабудовы каталіцкіх надаўчых станцыяў, аднак моцна зьвяртаць увагу на іхныя перадачы, каб былі на высокім узроўні і мелі посьпех.

Уканцы трэба зрабіць захады, каб старадаўнае і шляхотнае мастацтва тэатру, якое сяньня дзякуючы сродкам грамадзкай лучнасьці вельмі пашыраецца, спрычынілася да культурнага і маральнага росту глядачоў.

*15. Выхаваньне аўтараў.*

Каб зарадзіць вышсказаным патрэбам, няхай падрыхтуюцца без зацяжкі сьвятары, законнікі і сьвецкія людзі, каб маглі пакіраваць кампэтэнтна гэтымі сродкамі дзеля мэтаў апосталяту.

Перш за ўсё сьвецкія людзі павінны здабыць адпаведную тэхнічную, культурную і маральную падрыхтоўку. Таму трэба павялічыць лік школаў, факультэтаў і інстытутаў, у якіх журналісты, аўтары радыёвых і тэлевізьйных перадачаў, аўтары фільмаў і ўсе іншыя зацікаўленыя ў гэтым працаўнікі, маглі-б поўнасьцю здабыць прафэсіянальную адукацыю ў хрысьціянскім духу, асабліва адносна грамадзкай навукі Царквы.

Таксама трэба падрыхтаваць аўтараў і дапамагчы ім, каб і яны праз сваё мастацтва спрычыніліся да дабра людзей. Таму трэба рупліва рыхтаваць крытыкаў літаратуры, фільму, радыёвых і тэлевізыйных перадачаў, а такжа рыхтаваць іншых працаўнікоў, каб кожны знаў сваю прафэсію і мог судзіць аб справах так, каб маральны аспэкт заўсёды займаў сваё належнае месца.

*16. Падрыхтоўка ўспрыймаючых.*

Бяручы пад увагу той факт, што ўжытак сродкаў грамадзкай лучнасьці прызначаецца для ўспрыймаючых асоб розных векам і культурным узроўнем — для дабра і карысьці — трэба людзей адпаведна падрыхтаваць праз навучаньне і практыку. Таму, каб асягнуць такую мэту — асабліва калі йдзе аб моладзь — трэба ініцыятывы падтрымоўваць, групаваць і паводле прынцыпаў хрысьціянскай маралі разьвіваць у розных каталіцкіх школах, сэмінарыях, а таксама і сярод аб'яднаньняў сьвецкага апосталяту.

Каб усё гэта ажыцьцявіць хутчэй, павінна быць аб гэтым гутарка у катахізмах побач з выясьненьнем каталіцкай навукі і дысцыпліны.

*17. Абавязак дапамогі.*

Таму што зусім немагчыма для сыноў Царквы бяздзейна прыглядацца, як слова збаўленьня затрымліваецца і перашкаджаецца дзеля тэхнічных цяжкасьцяў і вялізных грашовых выдаткаў — зьвязаных з гэтымі прыладамі — Сьвяты гэты Сабор навучае, што іхным абавязкам ёсьць, падтрымоўваць каталіцкія газэты і часапісы, такжа ініцыятыву ў галіне кінематографіі, радыёвыя і тэлевізыйныя праграмы, а такжа дапамагаць ім матар'яльна, бо-ж іхняй галоўнай мэтай ёсьць распаўсюджаньне й абарона праўды і выхоўваньне людзкога грамадзтва згодна з хрысьціянскімі прынцыпамі.

Сабор вельмі заахвочвае так згуртаваньні як і адзінкі, якія маюць вялікія эканамічныя рэсурсы або тэхнічныя магчымасьці, каб шчодра падтрымалі грашова і сваею ведай гэтыя сродкі грамадзкай лучнасьці, паколькі яны служаць запраўднай культуры і апостальству.

*18. Устанаўляецца дзень.*

Аднак каб багаты і ўсебаковы апасталят Царквы пры карыстаньні са сродкаў грамадзкай лучнасьці меў пэўнейшую заруку сваіх вынікаў, устанаўляецца адзін дзень у годзе — ва усіх епархіях сьвету — ў якім:

а) трэба прыпомніць вернікам аб іхнім абавязку адносна сродкаў грамадзкай лучнасьці,

б) заахвоціць іх да малітвы ў гэтай справе,

с) і да зьбіраньня грашовых складак.

Сабраныя грошы бярэжліва будуць перададзены — згодна з патрэбамі ўсяго каталіцкага сьвету — для зарганізаваных Царквой інстытуцыяў і працаў, што вядуцца ў гэтай дзялянцы, дзеля падтрыманьня іх і павялічаньня.

*19. Устанаўляецца Управа Апостальскага Пасаду.*

Дзеля выкананьня свайго найвышэйшага пастырскага абавязку датычна сродкаў грамадзкай лучнасці, Папа будзе мець да сваей дыспазыцыі спэцыяльна да гэтага пакліканую Управу.

Айцы Сабору ахвотна прыхіляцца да жаданьня «Сакратарыяту Прэсы і Прадстаўленьняў» і разам з ім з належнай пашанай просяць Найвышэйшага Архісьвятара, каб быў ласкаў пашырыць уладу і кампэтэнцыі гэтай Управы на ўсе сродкі грамадзкай лучнасьці, уключна з прэсай, паклікаючы да яе сяброў-експэртаў з розных нацыяў, а такжа і людзей сьвецкіх.

*20. Абавязак біскупаў.*

Абавязкам біскупаў ёсьць: — кожны ў сваей епархіі — назіраць за ініцыятывай і дзейнасьцю ў гэтай галіне і пашыраць іх, асабліва, калі гэта датычыць публічнага апосталяту: кіраваць і каардынаваць, не абмінаючы также дзейнасьці законнікаў вынятых з пад біскупскай юрысдыкцыі.

*21. Нацыянальныя Управы.*

Дзеля таго аднак, каб апостальская дзейнасьць была праводжана ў межах нацыі з большым посьпехам — да чаго патрэбныя еднасьць думкі і сілаў — гэты сьвяты Сабор пастанаўляе і загадвае, каб усюды былі устаноўленыя і належна утрыманыя Нацыянальныя Управы друку, кіна, радыя і тэлевізіі. Заданьнем тады гэтых Управаў будзе нагляд за тым, каб вернікі, карыстаючы са сродкаў грамадзкай лучнасьці, фармавалі сваё сумленьне ў згодзе з праўдай; каб успамагалі і прыводзілі да парадку ўсё тое, што ў гэтай галіне каталікамі робіцца.

Кіраўніцтва Управаў у кожнай нацыі будзе належыць да Камісіі Біскупаў або да дэлегаванага Біскупа. Также павінны прыймаць у іх удзел сьвецкія людзі, якія ёсьць добра асьвядомленыя ў каталіцкай навуцы і зьяўляюцца экспэртамі ў тэхнічных справах.

*22. Міжнародныя Аб'еднаньні.*

Аднак засяг гэтых сродкаў выходзіць па-за межы паадзіночных нацыяў. Прычым адзінкі становяцца быццам грамадзянамі людзкой супалкі, таму патрэба, каб нацыянальныя пачыны і пляны лучыліся ў працы між сабою ў міжнародным абсягу.



*Урачыстая Літургія у базыліцы сьв. Клімэнта у Рыме у прысутнасьці Сьвятога Айца Папы Паўла VI. Сярод епіскапаў пры аўтары на першым пляне — Дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч, Апостольскі Візытатар для Беларусаў.*

Управы, аб якіх гутарка ў арт. 21, няхай ахвотна супрацуюць з адпаведнымі міжнароднымі каталіцкімі Упраўамі.

Міжнародныя каталіцкія Аб'еднаньні легальна пацьвярджае вылучна Апостальскі Пасад і ад яго залежаць.

ЗАКАНЧЭНЬНЕ.

*23. Інструкцыя.*

Каб усе прынцыпы і нормы гэтага Сьвятога Сабору аб сродках грамадзкай лучнасьці былі належна праведзены ў жыцьцё, на выразнае жаданьне Сабору, захадамі Управы Апостальскага Пасаду, пры дапамозе экспэртаў з розных нацыяў, павінна быць апублікаваная пастырская Інструкцыя згодна з арт. 19 гэтага Дэкрэту.

*24. Заклік Сабору.*

Гэты Сьвяты Сабор пераканаі, што прынцыпы і нормы, якія Ён прапануе, будуць ахвотна прыняты і шчыра зьбераганыя ўсімі сынамі Царквы. Тыя, што будуць карыстаць са сродкаў грамадзкай лучнасьці, ня толькі сабе не пашкодзяць, але падобна як соль і сьвятло, зробяць больш урадлівай зямлю і асьвецяць сьвет.

Больш таго, Сабор заклікае ўсіх людзей добрае волі — а перадусім тых, што гэтымі сродкамі кіруюць — каб імкнуліся іх ужываць вылучна для дабра людзкога грамадзтва, якога лёс з кожным днём больш залежыць ад іхняга добрага ўжытку.

Такім чынам як праз старадаўныя помнікі мастацтва, гэтак і праз навейшыя вынаходзтвы няхай Імя Госпада будзе праслаўленым паводле слоў Апостала: «Ісус Хрыстос учора і сяньня, Ён-же той самы і на векі». (Да жыд. XIII, 8).

---

Пасьля таго, калі гэты Дэкрэт быў прыняты блізу ўсімі Айцамі Сабору ў вольным і тайным галасаваньні, Папа Павал VI пацьвердзіў яго:

«У Імя Найсьвяцейшай і Неразьдзельнай Тройцы, Айца і Сына і Сьвятога Духа. Дэкрэты, якія на гэтым сьвятым і экумэнічным Саборы Ватыканскім II законна сабраўшымся, толькі-што былі прачытаныя, Айцом Сабору спадабаліся.

І Мы, у сілу дадзенай нам Хрыстом апостальскай улады, разам з Айцамі Сабору іх у Духу Сьвятым пацьверджаем, вырашаем і пастанаўляем, а што гэтак сынадальна пастаноўлена ў чэсьць Бога даём загад абвясьціць».

Рым, дня 31 сакавіка 1964.

*З лацінскай мовы тлумачыў*
*Бп. Ч. С.*

# Царкоўная музыка на Беларусі

## Частка II.

## ПАЛІФОНІЯ

### *1. Сярэднявечча і Рэнэсанс (ад пачатку да 1620 г.).*

Пачаткі шматгалосавага царкоўнага сьпеву (паліфоніі) на Беларусі сягаюць напэўна да самых пачаткаў царкоўнай музыкі ў гэтым краі. Народ з багатай і раньняй спадчынай гарманізаванага народнага сьпеву наўрад ці мог паўстрымацца, каб ня ўвесьці сваё сьпеўнае мастацтва у цэрквы ў самым раньнім часе. Думка Смаленскага адносна раньняга увядзеньня паліфоніі ў цэрквы робіцца асабліва праўдападобнай, калі заўважым, як блізкімі ёсьць «папеўкі», або узоры, старога знаменнага расьпеву да папевак, ужываных у тагачаснай народнай музыцы. Стыль першых гарманізацыяў быў бяз сумліву народны, уключаючы ў сабе цэлыя часткі аднагалоснага сьпеву, у актавах і пасьлядоўных чацьвертых і пятых, з пераходам мэлёдыі ад аднаго голасу да другога. Напэўна былі у гэтым сьпеве і элемэнты прыгожага народнага дысанансу.[24]

«Арс нова» (новае мастацтва) сярэднявечча прынесенае на Беларусь студэнтамі і рэлігійнымі сьпевакамі (рыбалты), знайшло папулярнасьць на князёўскіх дварах і ў школах сьпеву і праз іх пачало рабіць уплыў на сьпеў у вялікіх цэрквах і саборах.[25] У XIV-тым і XV-тым стаг. мы бачым разьвіцьцё сьпеву на два або тры галасы ў цэрквах у Кракаве і ў Вільні, а ў пачатку XVI-га стаг., прынамсь у Заходняй Беларусі, была ўжо моцна устаноўленая традыцыя гарманізацыі на чатыры галасы.[26] Распаўсюджаньне паліфоніі было аблегчана пераходам беларускай шляхты на лацінскае Каталіцтва і яе цягам да Заходняй культуры.

У Вільні школа літургічнага сьпеву існавала пры саборы сьв. Станіслава ўжо ад 1465 г. Трыдэнцкі Сабор (1545—1563) распачаў пярыяд рэформы лацінскага літургічнага сьпеву і новы напрамак быў наданы хору у 1579 г. польскім сьпеваком Шымонам з Бжэзіна. Беларускія вернікі масава прыходзілі у стаўшыяся ўжо тады моднымі лацінскія цэрквы, каб пачуць новае «штучнае сьпяваньне» (іскусное пеніе) такіх ведамых польскіх кампазытараў, як Вацлаў Шаматульскі (1529—1572) і Мікола Гамулка (1564—1609). Яны падзіўлялі новазбудаваныя арганы, на якіх майстры Сэбастыян з Менску (XVI стаг.) і Мікола Мазовіч паказвалі свае мастацтва.[27] Езуіты у сваіх новазаложаных калегіях у Вільні, Полацку, Горадні і Нясьвіжы зьвярталі вялікую ўвагу на музычнае ўзгадаваньне. Музыкі Ордзену Ёнаш Грушэўскі (пам. 1646 г.) і Якуб Пашкевіч (пам. 1657 г.) пісалі спэцыяльныя гімны для вучняў. Паколькі спачатку вялікая колькасьць гэтых вучняў былі праваслаўнымі, дык ня дзіва, што заходняя лацінская музыка знайшла сабе хутка месца ў праваслаўных цэрквах.[28]

Князь Мікола Радзівіл, галава кальвіністаў, вельмі любіў музыку. Ягоныя аркестра і хор у Вільні зрабілі вялікае ураженьне на ангельскага амбасадара, Сэр Джэром Горзей, калі апошні адведаў яго ў 1583 г.[29] Радзівіл быў апякуном Шаматульскага і назначыў яго кіраўнікам свайго хору ў Нясьвіжы.

Вялікую ролю ў збліжэньні заходняй і ўсходняй музыкі адыграў сьв. Язафат, архіяпіскап

---

[24] Глядзі А. Кастальский: «Особенности народно-русской музыкальной системы», Москва і СПбг 1923; A. Swan: „The Nature of the Russian Folk-Song", The Musical Quarterly, Vol. XXIX, New York 1943, pp. 498-516. Заўвагі Свана адносна народнай музыкі ў Пскоўшчыне маюць вялікую цікавасьць для студэнтаў беларускай народнай гарманізацыі.

[25] „On n'apprend point en Pologne ni à monter â cheval, ni à danser parcequ'il n'y a aucune académie. C'est ce qui fait que les jeunes seigneurs aiment voyager dans les pays étrangers pour y apprendre les langues et les exercices... Les Polonais sont naturellement dégagés et aiment passionnément la danse et la musique" cf. Sr. de Hauteville: „Relation Historique de la Pologne Paris 1697, p. 299-300. Польскія і беларускія вучоныя на унівэрсытэтах у Парыжы, Баленіі і Празе, а пасьля у Кракаве.

[26] J. Reiss: „Najpiękniejsze ze wszystkich jest muzyka polska", Kraków 1958, b. 28-29. Нават на двары караля Жыгімонта беларускія арганісты, як напр., Адам Мясяжкоўскі, здабылі сабе імя. Глядзі Б. Смольскі, «Вытокі і першапачатковыя формы Беларускага музычнага Тэатра», Беларускае Мастацтва, Менск 1960, Выд. АН БССР, бач. 140-150.

[27] Z. Ivinskis: „Kirchengesang in Litauen im XVI-XVIII Jahrhundert", Commentationes Balticae I/69-106, Bonn 1953, bač. 90-92.

[28] Z. Ivinskis, op. cit. bač. 102.

[29] „When I came to Vilna, the chief city Lithuania, I presented myself and letters patent from the Queen that declared my titles and what I was unto the Great Duke's Voivod Radziwill, a prince of great excellency, prowess and power... and religious protestant... Took me with him to his Church, heard Divine service, psalms, songs, a sermon and the sacraments administered according to the reformed church; whereat his brother cardinal Radziwill did murmur. His highness did invite me to dinner...; brought me into a very large room where organs and singing was. I was placed before him in the middest of the table; trumpets sounded and kettledrums roared. The first service brought in, jesters and poets discourse merrily, loud instruments and soft played very musically." Cf. Sir Jerome Horsey: „Travels" — „Russia at the close of the XVI th century", London 1856 at pp. 251-252.

Полацкі (1580—1623). Ён сам быў любіцелем музыкі і выдатным сьпеваком.[30] У часе ягонага ўвядзеньня ў Полацак, ён быў вітаны хорам з мясцовай езуіцкай калегіі, які сьпяваў па польску




*Пераносныя арганы тыпу вельмі распаўсюджанага у XVII-тым стаг.*

і нават па лаціне. Няма сумліву, што гэты сьпеў быў шматгалосны ў заходнім рэнэсансавым стылю таго часу.[31] Прэабражэнскі слушна заўважвае: «Уніяты прыгатавалі дарогу для лацінскага сьпеву на нашы (г. зн. праваслаўныя) кліpасы».[32] Д'якан сьв. Язафата, Дарахвей Лецікoвіч (дзейнічаў у 1600—1628 г.) быў музыкам ведамым яшчэ з часу, калі быў сьпеваком у хоры Мітрапаліта Іпація Пацея.[33]

У ўсходняй частцы Вялікага Княства, асабліва пасьля Берасьцейскай Вуніі, рэнэсансавая паліфонія напаткалася аднак на вялікую варожасьць з боку праваслаўных, якія ўважалі яе за прыладу «лацінскай ерасі». Разумоўскі піша, што Кіеўскае Брацтва супраціўлялася ўвядзеньню «штучнага сьпеву» і нават называла яго «праклятым». Праваслаўныя скардзіліся, што каталікі прыцягвалі ў свае цэрквы «слабых сыноў Праваслаўя салодкімі тонамі музычных арганаў».[34] Паводле аднаго тагачаснага праваслаўнага трэбніка, сьвятары павінны былі пытацца вернікаў на споведзі, ці не хадзілі яны ў лацінскія цэрквы, каб слухаць музыку.[35]

Мялеці Сматрыцкі, спачатку вялікі праціўнік Вуніі, а пасьля яе прыхільнік, піша ў досыць срогім тоне да аднаго манаха Кіева-Пячэрскай Лаўры, Антона Мужылоўскага, абвінавачваючы манахаў гэтага манастыра у непасьлядоўнасьці іхніх узглядаў на новыя плыні: «Вы кажаце: „О, праклятая Вунія"; а ня так яшчэ даўно вы казалі: „Праклятае казаньне" і „Пракляты штучны сьпеў"; калі-ж аднак гэтыя рэчы былі ўведзеныя і прыняліся, вы пачалі ўважаць іх за добрыя».[36]

Такім чынам у першых гадох XVII-га стаг. першапачатковы супраціў шматгалоснаму сьпеву быў зломаны. Брацтвы, якія былі заложаныя з мэтаю бараніць чысьціні праваслаўнай веры і праваслаўнага царкоўнага сьпеву, самі сталіся асяродкамі распаўсюджаньня той музыкі, з якой яны раней змагаліся. Разумоўскі успамінае аб уплывовым Магілеўскім Брацтве, якое загадала у 1634 г., каб «Архімандрыт Брацкага манастыра і ягоныя наступнікі наглядалі за Брацкімі школамі і глядзелі, каб яны мелі добра згармнізаваны царкоўны сьпеў» (согласное пеніе).[37] Падобныя брацтвы існавалі ў Слуцку, Наваградку, Менску, Віцебску, Мсьціслаўлю, Нясьвіжы, Воршы і Крычаве. У іхніх, часамі вельмі багатых, бібліятэках былі знойдзеныя рукапісы літургічных сьпеваў на чатыры, пяць, шэсьць, восем і нават дванаццаць галасоў. У брацкіх школах даваліся лекцыі харавога сьпеву, гармоніі і кампазыцыі з мэтаю ўзгадаваньня добрых дзякоў, рэгентаў і сьпевакоў.[38] Найбольшы уклад у

---

[30] „Ipse demum primus in choro consistere, et ita composita in omnibus praesens officiis psallere consueverat voce, ut omnes ad intimam devotionem provocaret". Cf. J. Susza: „Cursus vitae et certamen martyrii B. Josaphat Kuncevicii". Ed. Martinov. Paris 1856, p, 48.

[31] Перад уваходам у сабор на Язафата чакалі вучні мясцовай езуіцкай калегіі і лацінскія сьвятары гораду, выстраеныя ў два рады: „Ils saluèrent le prelat par des chants et se retirèrent aussitôt, pendant que Josaphat allait s'agenouiller devant l'autel et prendre place sur le siège archiépiscopal. Le clergé vint ensuite prèter l'obédience à son nouveau pasteur, et une messe fut célébrée en action de grâces de cette heureuse entrée. La jeunesse ruthène de la ville chanta alors des vers en polonais en l'honneur de l'évèque..." cf A. Guépin: „Un apôtre de l'Union des Eglises au XVIIe siècle", Paris 1898, Vol. I, p. 214 ff.

[32] Гл. А. Преображенский: «Латинская ерась в русском пении XVII в». Сборник «Орфей», Петроград 1922, кн. I, бач. 194.

„Ideoque in libris liturgicis manuscriptis e saec. XVII qui apud unitos in usu erant, inveniuntur aliquae innovationes quae aliter nullibi occurrunt. Invenimus ibi e. g. sequentiam „Dies irae dies illa" ut patet in linguam slavicam traductam, quae in liturgia pro defunctis cantanda praescribitur, hymnum de Spiritu Sancto „Veni Creator", saepissime hymnum „Te Deum laudamus". Ф. Добрянский, «Собр. Рукописей Вил. Публ. Библиотеки», Вильна 1882, бач. 210. Но. 115; бач. 268, Но. 116; J. Praszko, „De Ecclesia Ruthena Catholica, sede metropolitana vacante 1655-1665" Roma 1944, bač. 302.

[33] Cf. J. Susza, op. cit., бач. 46, „Depositio P. Gennadii".

[34] А. Преображенский, «Культовая Музыка», бач. 45.

[35] «Согреших в сладость, слушая гудения гуслей и орган и труб». Из чина исповедания. Гл. Ал. Веселовский: «Розыскания в области русского духовного стиха», Сбор. Отделения Русск. Языка и слов. Акад. Наук, Том XXXII, СПб. 1883.

[36] Разумовский, op. cit., бач. 207-208.

[37] Разумовский, op. cit., бач. 207.

[38] А. А. Папков: «Братства», Св. Троицкая Сергеевская Лавра, 1900, бач. 152.

беларускую царкоўную паліфонію дало без сумліву Віленскае Сьвятадухаўскае Брацтва (атрымала статут у 1584 г.). Сматрыцкі піша, што паліфонія была там нармальным спосабам сьпеву: «Калі я жыў у манастыры у Вільні, мае вернікі з Беларускай Полацкай Епархіі любілі мяне. Там кожнае маё слова было законам. Ці я увайходзіў у царкву, ці выходзіў з яе, заўсёды я быў акружаны сотнямі людзей. Калі я служыў Літургію, сьпеў быў мастацкі, на чатыры хоры (г. зн. чатыры галасы»).[39]

Вялікая шкода, што, ня гледзячы на такі росквіт царкоўнай музыкі у XVI-тым і пачатку XVII-га стаг., толькі малая колькасьць музычных твораў была надрукованая. Магчыма параўнаўча малы лік друкарняў у Вялікім Княстве ў гэтым часе быў таму прычынаю.

*2. Пэрыяд Віленскай Акадэміі (1620—1700).*

У Уніяцкай царкве базыльянскія манахі адыгралі вялікую ролю ў галіне царкоўнай музыкі. У 1609 г. да іх перайшоў манастыр сьв. Тройцы ў Вільні; у 1613 г. яны атрымалі манастыр у Жыровіцах, а ў 1627 г. у Супрасьлі. Творы Мяльцэўскага мелі вялікі посьпех на Беларусі і паза яе межамі: у Маскоўшчыне імі захапляўся сам патрыярх Нікан.[40] Базыльяне мелі практычна манаполію друку літургічных музычных кнігаў. З каралеўскага двору ў Кракаве і Варшаве у Вільню прыбывала нямала ведамых музыкаў: Марцін Мяльчэўскі, Станіслаў Ружыцкі, напэўна адведалі Вільню; а Мікола Замарэвіч і Іван Зюскі там выкладалі. Іхніх лекцыяў слухалі шматлікія вучні ня толькі з Беларусі, але таксама з Польшчы, Кіева і Маскоўшчыны. Такім чынам, цераз сваіх студэнтаў, яны мелі вялікі уплыў на разьвіцьцё царкоўнай музыкі ў ўсіх гэтых краінах. У Вільню з Кіева прыйшоў Мікола Дылецкі (прыб. 1630—1690), найбольш выбітны прадстаўнік Віленскай музычнай школы.[41] Хоць уражэнец Кіева, Дылецкі большую частку свайго жыцьця правёў на Беларусі. Ён студыяваў у Мяльчэўскага, Замарэвіча і Зюскага «царкоўныя сьпевы Рымскай і Праваслаўнай цэркваў» у Кіеве і Варшаве. Ён пасьля стаўся сябрам Віленскай Акадэміі і «прачытаў шмат кніг аб музыцы». У 1677 г. вышла па польску ягоная праца з тэорыі музыкі пад назовам «Тога Злота».[42] У 1679 г. вышла другое выданьне гэтай кнігі у Смаленску, «пераклумачана на славянскі дыялект»; а трэцяе выданьне убачыла сьвет у Маскве ў 1681 г. У гэтай кнізе Дылецкі займаецца асновамі заходняй паліфоніі, а ў асаблівасьці Вэнэцкай барокавай школы.[43] Тлумачэньне яе на расейскую мову мела вялікі ўплыў на ўвядзеньне заходняй музыкі ў Маскву. У 1675 г. Дылецкі, як і шмат іншых ягоных землякоў, выехаў у Маскву, дзе займаў становішча рэгента ў прыватнай капліцы князя Рыгора Строганава, які быў вялікім паклоньнікам царкоўнай музыкі ў заходнім стылю. Дылецкі ёсьць меньш ведамы, як кампазытар. Захаваўся рукапіс ягонай адной «Херувімскай» у адным зборніку з 1690—96 г., які цяпер знайходзіцца у музэі у Цьверы.[44]



*Настаўнік навучае харыстаў лінейнага сьпеву. Палова XVII-га стаг. (З кнігі Дылецкага «Музикийская Граматика»).*

З іншых ведамых беларускіх сьпевакоў гэтага часу трэба ўспомніць Яна Дзякоўскага, Яна Коклю з Полацку (каля 1657 г.) і дзяка Тызэнгаўза з Вільні (каля 1637 г.). Кокляў сьпеў вызваў подзіў у маскоўскага цара Аляксея Раманава, які запрапанаваў Коклю ўступіць да яго на службу.[45] На усходзе Беларусі Унія распаўсюджвалася больш павольна і шмат праваслаўных мастакоў і вернікаў, хутчэй чым паддацца «лацінскай ерасі», шукалі апекі ў маскоўскага цара. Ня гледзячы на неспакойныя часы, царкоўная музыка працьвітала, асабліва ў аколіцах

[39] Разумовский, op. cit., бач. 209.

[40] Н. Финдейзен, ор. сіт., бач. 293, нататка 354.

[41] Н. Финдейзен, ор. сіт., бач 293.

[42] Поўны назоў кнігі ёсьць наступны: „Toga Złata w nowej swiata metamorphosi szlachetnemu magistratowi Wilenskiemu na nowy rok przez Mikołaja Dileckiego akademika Wilenskiego ogłoszona w Wilnie, typis Franciskanis anno 1675”. Cf. K. Streicher, „Bibliografia polska” Tom XV, bač. 207.

[43] С. Смоленский, «Музикийская грамматика Н. Дилецкаго» — Общ. Люб. Древ. Пис., СПбг. 1910.

[44] Н. Финдейзен, ор. сіт., бач. 327 і наст.

[45] А. Преображенский, ор. сіт., бач. 43-44.

Магілева, дзе было запісана шмат напеваў. Некалькі ірмалёгіянаў было уложана ў Віцебску, асабліва ў Маркавым манастыры.[46] Кутэінскі манастыр каля Воршы славіўся сваімі музычнымі рукапісамі і сваей друкарняй. Шмат цэнных рукапісаў было вывезена ў 1654 г. ў Маскву у Іверскі манастыр, адкуль яны пасьля знайшлі дарогу ў біблятэку патрыярха Нікана ў Новым Ерузаліме.[47]

Смаленск меў сваю музычную школу (Смаленскі напеў) і арганісты Казімерка Васілеўскі (каля 1670 г.) здабыў сабе там славу перад тым, чым выехаць у Маскву.

У часе войнаў з Маскоўшчынай, якія прадаўжаліся аж да канца XVII-га стаг., шмат сьпевакоў выехала з Беларусі ў Маскву. Цэлыя манастыры у Маскве, як Іверскі і Новадзявічы, складаліся з беларусаў і далі сваё назовы цэламу раду «літоўскіх» напеваў («Вяцкі», «Старасімонаўскі», «Іверскі» і т. д.). У архівах маскоўскіх хораў можна знайсьці імёны многіх сьпевакоў з «Літвы», шмат з якіх, як Ян Канюхоўскі і Ян Календа, былі без сумніву беларусамі.[48] Адным з такіх ведамых беларусаў быў Андрэй Беражанскі. Ён быў сьпеваком у хоры, які ў 1652 г. прыехаў у Маскву з Кіева.[49] Маскоўскія князі і япіскапы стараліся адзін перад другім, каб мець у сваіх хорах сьпевакоў з Вільні і Кіева. Патрыярх Нікан быў вялікім паклоньнікам «штучнага сьпеву». Ён меў у сябе хор з пяці сьпевакоў «з Польшчы», якія сьпявалі нават па лаціне.[50] Нікан адмоўвіўся, не без ваганьняў, ад арганаў, аднак прысутнасьць у Маскве арганістага Казімеркі Васілеўскага паказвае, як далёка зайшла там заходняя мода, ня гледзячы на патрыяршую забарону. Сырыйскі д'якан Павал з Алеппо, які наведаў Маскоўшчыну у 1656 г., успамінае аб вялікім ліку «чужынцаў» у маскоўскіх царкоўных хорах.[51]

Новы стыль сьпеву з ягонымі прывабнымі мелёдыямі і, для маскоўскіх вушэй, новай гарманізацыяй, аказаўся такім папулярным, што ўканцы выціснуў зусім з ужытку стары Знаменны расьпеў і распачаў новы пэрыяд «польскага» ўплыву ў маскоўскай царкоўнай музыцы, які трываў аж да 1725 г.

Ня толькі літургічныя напевы з Вільні аказаліся так папулярнымі, але таксама калядкі, канты з Багагласьнікаў і псальмы ўвайшлі ў маскоўскія сабо́рныя хоры і царскія капліцы. Мэтрычныя псальмы Сымона Пятроўскага-Сітняновіча з Полацку (1629—1680) былі згарманізаваныя на тры галасы згодна з беларускай традыцыяй адным з маскоўскіх вучняў Дылецкага, Васілям Цітавым.[52]

*(4) «Хэрувімская» — Віленская Акадэмічная школа (XVII стаг.).*




### *3. Заняпад (1725—1880).*

Амаль бесперапынныя войны з Масквою і рост значэньня Варшавы і Масквы, як культурных цэнтраў, прывялі беларускую царкоўную музыку да занепаду. У той час, калі праваслаўная інтэлігенцыя цягнула ўсё больш у бок Масквы, каталікі — уніяты і лаціньнікі — былі падвергнутыя працэсу ўсіленай палянізацыі, у выніку якога яны затрацілі шмат з свайго арыгінальнага і незалежнага характару. У XVIII-тым стаг. уніяцкія царкоўныя хоры, якія раней будзілі подзіў усіх, паступова апынуліся пад кіраўніцтвам «дзякоў», у большай частцы невукаў і некампэтэнтных. Вось што піша аб тагачасным стане царкоўнай музыкі ў Вялікім Княстве Літоўскім Спікула: «Дзякі часам былі вінаватыя ў сумніўных музычных практыках, ужываючы неадпаведні музычны матар'ял і ўводзячы розныя навасьці, нікуды нягодныя як з літургічнага так і з музычнага пункту гледжаньня. Адной з такіх шырока распаўсюджаных практыкаў было сьпяваць «Самуілку», або «Еру-

[46] G. Pichura, op. cit., p. 413-414.

[47] Гэтыя кнігі знаходяцца у біблятэцы Гістарычнага Музэю ў Маскве. Гл. «Каталог Собрания Знаменных и Нотных Рукописей Синодального Училища Церковного Пения» Но. 1359-1381.

[48] Н. Финдейзен, op. cit., бач. 308—309.

[49] «Он списал в Москве белорусскую книгу «Лифос», и жил первоначально на Троицком Подворье в Московском Кремле — а потом в Голутвиной Слободе за Москвой рекой». Гл. Разумовский, op. сіт., бач. 210.

[50] Разумовский, op. cit., бач. 189.

[51] Калі ён быў у Маскве ў 1656 г. Павал з Алеппо адведаў «рускіх» манашак, якіх нядаўна пасяліў цар Аляксей у Новадзявічым манастыры. Ён быў захоплены іхнім сьпевам: «У часе калі мы пакланяліся іконам, яны (г. зн. манашкі) сьпявалі «Аксіон эстін» і гармонія тонаў і іхніх салодкіх галасоў была цудоўная» гл. Paul of Aleppo, „The Travels of Macarius, Patriarch of Antioch", London 1829, Vol. II, page 271-272.

[52] Н. Финдейзен, op. cit., бач. 294—302.

залімку». Гэтыя назовы адносяцца да неагранічанага акампаніяманту напеваў і гімнаў сьв. Літургіі і іншых службаў праз другі, а часам нават і трэці, голас, звычайна у інтарвалах адной трэцяй, пятай ці актавы. Многія з гэтых мэлёдыяў былі першапачаткова тэмамі паліфанічнай харавой музыкі, якія распаўсюдзіліся ў народзе і карысталіся там вялікім посьпехам, дзякуючы сваім параўнаўча простым і здаровым гарманічным асновам. З часам паходжаньне і спосаб сьпяваньня гэтых напеваў быў забыты, або аднесены памылкова да іншых крыніцаў, а музычная харавая партытура была заменена «Самуілкай».[53]

Астаткі уніяцкіх харавых твораў у італіянскім стылю захаваліся у розных «Багагласьніках» выдаваных у XVIII-тым стаг. у Жыровіцах і ў Супрасьлі. Усе яны маглі быць выконваныя або толькі хорам, або пры акампаніямэнце аргану. Некаторыя з гэтых «кантаў», як напр. «Віжу Ця на крэсьце», «Крэсным дрэвам распятага» і «Маці Міласердзія» ёсьць рэдкай прыгожасьці і надзвычай урачыстыя.[54] Узрост значэньня паралітургічных «кантаў» быў беспасярэдным вынікам практыкі «ціхай» Літургіі, уведзенай уніятамі. Апёртыя на народных матывах, яны сталіся быццам спантанічным выражэньнем народнай пабожнасьці. У «кантах» захаваўся нацыянальны элемэнт у часе, калі ён быў амаль зусім выкінены з чыста літургічных песьняў. Як глыбока ўкараніліся ў сэрцы народу напевы з Багагласьнікаў сьведчыць хоць-бы той факт, што сяньня шмат літургічных песьняў сьпяваюцца на мэлёдыі «кантаў», асабліва у часе Вялікага Посту і Каляд.[55]

У гэтым-жа стагодзьдзі многія уніяцкія цэрквы і манастыры ўвялі арганы, што дало прычыну да саркастычных заўвагаў з боку некаторых праваслаўных палемістаў. У інтармэдыі (камічнай сцэнцы) напісанай праваслаўным япіскапам Георгіем Каніскім у 1760 г. расказваецца, як крыху падпіўшы селянін увайшоў у каталіцкі касьцёл і, пачуўшы музыку, пачаў танцаваць: «Аж вось пачалі званіць па нашаму да абедні, а па іхняму до мшы. Вось я і пайшоў да касьцёлу. Аж там як зайграюць, хто ў дудачкі, хто ў сьвісьцёлачкі, а хто ў бубны. Вось я, праўда, ня быўшы ліх, дый пайшоў скакаць».[56]

У канцы XVIII-га стаг. Базыльяне у Жыровіцах выдалі зборнік пабожных песьняў на польскай мове пад назовам «Славнэ кантычкі жыровецке». У гэтым манастыры манах Скальскі ўславіўся сваім добра ведамым гімнам «Жыровіцэ, ласк крыніцэ», які ня страціў папулярнасьці да сяньняшняга дня.[57] У Белай Падляскай ігумен Цімахвей Шчуроўскі (1740—1810) пісаў кантычкі ў чэсьць сьв. Язафата Кунцэвіча. Найбольш ведамыя з іх ёсьць «Послухайце, цо зробіла» і «Сьвентых цнут збёжэ і цудув велькіх явны», абедзьве з партытурай для аргану.[58] Шчуроўскі уфундаваў стыпэндыю у вышыні 6000 злотых дзеля ўтрыманьня і ўзгадаваньня чатырох хлапцоў, якія-б «сьпевам славілі Бога перад мошчамі сьв. Язафата».

У Беластоку няведамы базыльянін улажыў мілагучную песьню «Бога верні голдовніцы» (Бога верныя малеце), а манастыр у Лесьнай, які знайходзіўся па суседзку, быў пладавітым асяродкам народнага сьпеву. У 1824 г. паявіўся найбольш ведамы з беларускіх «кантаў», «О мой Божа, веру Табе», які магчыма быў напісаны езуіцкім музыкам.[59]

Трэба асабліва падчыркнуць значэньне езуіцкіх, бэрнардынскіх, лазарысцкіх і іншых законных лацінскіх місіяў дзеля распаўсюджаньня заходняга ўплыву у Вялікім Княстве Літоўскім. Галоўнымі заданьнямі місіянера было прапаведваць, выкладаць дзецям Закон Божы і навучаць сьпеву і літургічнай музыкі. Гэтая апошняя дзейнасьць праводзілася амаль выключна ў польскай мове.[60] Некаторыя кантычкі з Вяліка-

---

[53] E. Spikula: „Byzantine-Slav Liturgical Music — the Period of Choral Development“ The Ark, Vol IV, No. 1, Stanford 1949, бач. 11-13.

[54] «Богогласник», Варшава 1936, бач. 109, 165 і 261. «Маці міласердзія» ёсьць таксама добра ведамая у беларускай вэрсіі а. Я. Гэрмановіча, «Маці наша добрая».

[55] Гэтая практыка ёсьць асабліва распаўсюджаная сярод украінцаў у Галіцыі. Яны сьпяваюць Алілуя перад Евангельлем на мэлёдыю канту «У Назарэце», «Даісполніцца» на тон калядкі «Неба і земля», а «Херувімскую» на тон «Уже дакрэт падпісуе».

[56] Хрэстаматыя па Старажытнай Беларускій Літаратуры, Акад. Навук БССР, Мінск 1959, бач. 382.

[57] „Bazylianie zaczęli utrzymywać szkoły i założyli drukarnię, z której wychodziły znane powszechnie owe kantyczki Żyrowieckie przez wszystkich używane na Litwic. Bazylian Skalski ułożył sławną oną piesn nabożną, zaczynającą się od wierszy:

„Żyrowice łask krynice na świat wylały,
Gdy Maryję jak lilije na gruszce ukazały...“

która, będąc w ustach całego ludu, przypomina mu codzień zupełną historyę zjawienia się w tem miejscu cudownego obrazu i rozszerzenia czci jego po całym kraju“ Cf. M. Balinski, „Starożytna Polska“, Vol, III, Warszawa 1846, bač. 686.

[58] Cf. „Tym Szczurowski“, Encyklopedya Kościelna, Tom 37-38, Kraków 1903, bač. 367; Ks. Michał Dąbrowski: „O Swiętym męczenniku Josafacie Arcybiskupie Połockim ułożona przez Księdza Tymoteusza Szczurowskiego Z. Sw. B. W., Superiora Klasztoru Bialskego“, Kraków 1868.

[59] E. Karski: „Geschichte der Weissrussischen Volksdichtung und Literatur“. Berlin-Leipzig 1926, Seite 112.

га Княства знайшлі месца ў польскіх «канцыяналах» выдаваных айцамі Лазарыстамі Пятром Язэпам Гарштоўскім, Міхалам Рэймскім і перадусім Міхалам Мядушэўскім (1787—1868).[61]

Большасьць літургічных кнігаў гэтага часу былі друкаваныя ў Львове і Пачаеве. У выніку гэтага ў цэлай Беларусі пачаў адчувацца украінскі ўплыў. Асабліва моцны быў гэты уплыў на Падлясьсі і Палесьсі, дзе ён існуе да сяньняшняга дня. Досыць паважнае музычнае жыцьцё існавала яшчэ ў Вільні і Магілеве, але нажаль мы маем аб ім вельмі мала дакумэнтаў. Магілеў быў ведамы з сваіх кантаў, зборнікі якіх распаўсюдзіліся па ўсей Беларусі.[62]

Адзін заходні падарожнік адведаў Магілеў у другой палове XVIII-га стаг. і ягонае апісаньне Службы Божай у мясцовым праваслаўным саборы выклікае ў нас настальгічныя ўспаміны забытай славы: «Я прысутнічаў на рускай Літургіі ў саборы. Яна была простая і ўрачыстая: простая ў сваей ўнутранай будове, але бліскучая і пышная ў сваіх вонкавых хвормах. Там ня было ігры скрыпак і нават ніводнага солё сапрано, каб прыцягнуць увагу тысячы вернікаў. Усе, ад вялікага да малога, стаялі ціха і з пашанаю прыслухоўваліся да сьпеваў, малітваў і розных чытаньняў. Два хоры сьпевакоў, якія здаваліся ведаць толькі напевы старых грэцкіх Хрысьціянскіх тонаў, сьпявалі ў перамежку: часамі яны сьпявалі разам, а часам толькі адны сапраны, або іншыя галасы — дышканты, тэнары, альты і басы — але ўканцы яны заўсёды зьліваліся ў адзін суцэльны хор. Гарэлі сотні лямпадаў; сьвятары былі адзетыя ў пышныя вопраткі, а народ спакойны і поўны малітаўнага настрою: ня было чутно нават шэпту і ніхто не марнаваў часу ў плётках, як гэта часта бывае ў нашых цэрквах... Усе стаялі ціха ў паставе поўнай пашаны перад іхнім Богам».[63]

Да канца гэтага пярыяду належыць цікавая фігура Канстанціна Мацесонскага (памёр у 1858

*(5) Сьпеў падчас Праскамідзіі ў в. Кляшчэлі (прыблізна XVIII стаг.).*




г.), які выехаў з Беларусі ў Ужгарад (Закарпацкая Украіна).[64] Там ён ня толькі зрэфармаваў хор у мясцовым саборы, але ўвёў шмат беларускіх напеваў, якія хутка распаўсюдзіліся сярод мясцовага насельніцтва і былі ім прысвоены.[65]

Канчатковая акупацыя Беларусі Масквою (1795 г.) і зьнішчэньне Уніяцкай Царквы (1839 г.) зачынілі гэты даволі нявыдайны пэрыяд паляінізацыі беларускай царкоўнай музыкі, каб замяніць яго маскоўскім уплывам, больш плодным з музычнага пункту гледжаньня. Кіраўнікі хораў, узгадаваныя на традыцыях царскай і сынадальнай капэльляў Львова (1789—1870) і Бахмецева (1807—1901), спрычыніліся шмат да ўзьняцьця ўзроўню царкоўнага сьпеву на Беларусі. Было напісана шмат гарманізацыяў мясцовых адменаў, бо кожны горад хацеў мець свой собскі «напеў». З гэтага часу паходзяць г. зв. Менскі, Жыровіцкі і Віленскі «напевы».[66] Іхні характар быў

[60] Маскоўскі амбасадар Пятро Талстой, які быў праездам у Менску у 1698 г., быў вельмі захоплены музыкай органаў і паліфанічным сьпевам тамтэйшых Бэрнардынаў і Бэнэдыктынцаў. Гл. Т. Ливанова: «Очерки и Материалы по Истории Русск. Музыкальной Культуры», Москва 1938, бач. 147.

[61] Alphonse Schletz, C. M. „Activité culturelle des prêtres de la Mission en Pologne", — „Annales de la Congrégation de la Mission". Tome 119-120. Paris 1954, pp. 113-133.

[62] E. Karski loc. cit.

[63] Christian Hieronymus Schlegel: „Reise in mehrere russische Gouvernements in dem Jahren 178?, 1801, 1807, und 1815". — Tom II, „Reise über Dorpat... durch das Pleskowsche, Polozkische und Mohilow'sche Gouvernement im Jahre 178?" Meiningen 1823, seite 128-129.

[64] Ф. Стешко: «Церковна музика на Підкарпатський Русі», Журнал «Просвіта», Ужгород, річнік XII, 1936.

[65] Кантакты паміж Яблачынскім манастыром на Падлясьсі і Закарпацкай Украінай былі асабліва ажыўленымі ў пачатку XX-га стаг., калі шмат праваслаўных місіянераў паехала адтуль каб працаваць паміж закарпацкіх уніятаў. Яны прывезьлі з сабою туды многа беларускіх напеваў. Гл. Яблачынскую «Херувімскую» ў «Зборніку» (рыхт. да друку) Лёндан.

[66] Важна разрозьніць паміж «расьпевам» і «напевам». Пад расьпевам мы разумеем поўны цыкль літургічных сьпеваў незалежнага характару (напр., Знаменны, Кіева-Літоўскі, Грэцкі і т. д.). Напевы-ж зьяўляюцца мясцовымі адменамі малёдыяў узятых з аднаго з гэтых цыкляў (напр., Жыровіцкі напеў зьяўляецца адменай Кіева-Літоўскага расьпеву). Часамі, як у выпадку Супрасьлскага цыклю, цяжка сказаць, ці яго трэба аднесьці да разраду расьпеваў, ці напеваў. Пасьля павярхоўнага агляду Супрасьлскага Ірмалёгіяну, думаецца, што яго трэба аднясьці хутчэй да расьпеваў. Некаторыя мясцовыя малёдыі часам таксама называюцца напевамі, але ў большасьці выпадкаў яны зьяўляюцца творамі няведамых кампазытараў. Сапраўныя напевы, або адмены расьпеваў, не павінны ніколі быць зьмешванымі з гэтымі псэўда-напевамі.

тыповым адбіткам салодка-сэнтымантальнага стылю, які быў тады ў модзе і які яшчэ да гэтага часу цешыцца пэўнай папулярнасьцю на Беларусі і ў Маскоўшчыне. Сур'ёзныя кампазытары, якія-б былі здольныя прадаўжаць працу ў галіне царкоўнай музыкі ў беларускім нацыянальным духу, амаль не існавалі. Паколькі на Беларусі ня было добрых музычных школаў, усе больш здольныя вучні высылаліся ў Маскоўшчыну. Літургічныя творы Міхаіла Глінкі з Смаленску (1804—1857), які напісаў прыгожую «Херувімскую», былі паводле свайго духу поўнасьцю маскоўскімі. Мы ня ведаем прозьвішча ніякага іншага кампазытара, які-б стварыў у гэтым часе нешта годнае ўвагі ў галіне царкоўнай музыкі.

*Г. Піхура*

(Далей будзе).

---

# КАЗАНЬНЕ НА 25-га САКАВІКА

Магчыма прыходзілася вам калі быць на вялікім канцэрце, дзе галасы музычных прыладаў, пад кіраўніцтвам умелага дырыгента, зьліваюцца ў адну магутную малёдыю, якая пераймае нас да глыбі душы і пераносіць да вышэйшага, лепшага сьвету. Мы ня чуем у гэтай музыцы гуку паасобных прыладаў, а толькі адно гарманічнае цэлае. Няхай толькі парвецца найменьшая струна ў апошняй скрыпцы і адразу ўрываецца ў музыку няпрыемны скрыгат, які парушае ўвесь парадак і псуе гармонію.

Нешта падобнае назіраецца у цэлым сусьвеце, які сваей прыгожасьцю і парадкам адлюстроўвае бесканечны розум Таго, Хто яго стварыў. Сьвет зьяўляецца быццам адной вялікай песьняй на Божую славу. Нядарам натхнёны псальміст, гледзячы на прыгожасьць сьвету, усклікнуў у захапленьні:

Нябёсы апавядаюць славу Божую
І Прасторы выяўляюць творчасьць рук Ягоных.
(Пс. 18).

Паколькі ўвесь сьвет ёсьць адлюстраваньнем велічы Божай, дык чалавек ёсьць ім у асаблівасьці; бо ўсе рэчы славяць Бога сваім існаваньнем, а людзі хваляць Яго разумна. Таму ў іншым месцы псальміст кажа:

Пляскайце ў далоні, ўсе народы,
Сьпявайце Богу ў радасьці вялікай.
(Пс. 46).

Бог аднак ёсьць бесканечны ў сваей дасканаласьці, а мы агранічаныя. Дзеля гэтага захацеў наш Тварэц падзяліць усіх людзей на асобныя групы, на народы, даючы кожнаму з іх сваю мову, характар і іншыя асаблівыя дараваньні. Разьвіваючы гэтыя даныя яму ад Бога дары, кожны народ гэтым самым хваліць свайго Тварца, а ўсе яны зьліваюцца ў адну магутную песьню на Божую славу. У гэтым вялікім хоры, быццам у вялікай сям'і, няма нікога лішняга: кожны мае сваё належнае месца і вы ня можаце выкінуць нікога, не папсаваўшы гармоніі.

Падзяліўшы людзей на народы, Уседобры Бог улажыў у сэрца кожнага чалавека асаблівую любоў да таго краю, дзе радзіліся ягоныя бацькі; любоў да народу, які жыве ў гэтым краю, а таксама да мовы, на якой гаворыць гэты народ і на якой ён сам пачуў першыя ласкавыя словы з вуснаў сваей маці. Мы завем гэты край «Бацькаўшчынай».

Слова «Бацькаўшчына» паходзіць ад «бацькі». Ці-ж можа быць даражэйшае слова ў нашым слоўніку? Бацькам, або Айцом Нябесным, мы называем Бога, які нас стварыў. Бацькамі мы называем тых найдаражэйшых нам людзей, якія нам далі гэтае дачаснае жыцьцё. Дык і Бацькаўшчына таксама цесна зьвязана з дарам жыцьця, бо інакш мы-б яе так не назвалі. Праўда, яна нам не дае жыцьця, але затое мы ўрасьлі ў яе, быццам дрэва карэньмі, і чэрпаем з яе жыватворчыя сокі. Бо толькі на грунце Бацькаўшчыны, у акружэньні свайго народу, агрэтыя цёплымі праменьнямі роднае мовы, мы можам вырасьці на паўнавартасных адзінак. Нешчасьлівы той, хто дабравольна адрэзвае сябе ад гэтых родных жыватворчых крыніцаў і прадаецца чужынцам: ён быццам бясплоднае дрэва, якое ніколі ня можа поўнасьцю расьцьвісьці і прынесьці пладоў. Любоў Бацькаўшчыны ёсьць нечымсьці прыродным для чалавека, дарам Божым. Таму той, хто чураецца сваей бацькаўшчыны, зьяўляецца вырадкам.

Калі-б хто сумняваўся ў гэтым, дык хай паслухае, што кажа сьвяты Павал. Гэты вялікі Апостал, які столькі папрацаваў сярод іншых народаў дзеля праўды Хрыстовай і які ўканцы аддаў сваё жыцьцё за Хрыста, праз усё жыцьцё аставаўся патрыётам жыдоўскага народу. Наколькі вялікая была ягоная любоў свайго народу, мы можам бачыць у ягоным лісьце да Рымлянаў: «Праўду кажу ў Хрысьце, не маню; сьведчыць мне сумленьне маё ў Духу Сьвятым, што вялікі для мяне сум і мука няўстанная сэр-

цу майму: бо я-б хацеў сам быць адлучаным ад Хрыста за братоў маіх, родных мне целам, якія ёсьць Ізраільцяне». (Рым. 9, 1-3).

У сьвятле вышэй сказанага як-жа праўдзіва і прыгожа гучаць словы нашага вялікага паэта Пранцішка Багушэвіча: «Мова наша сьвятая, бо яна нам ад Бога даная».

У вялікай сям'і народаў сьвету ёсьць таксама і Беларускі Народ. Раз Бог захацеў, каб Беларускі народ існаваў, дык у сваім адвечным пляне Бог мае для яго асобае месца і мэту. Відаць, наш народ мае свае асаблівасьці і дары, якія робяць яго іншым ад другіх народаў. Не даваць яму жыць свабодна і разьвіваць гэтыя Божыя дары ёсьць безумоўна грахом і праступкам.

Калі 46 год таму назад, *25-га Сакавіка 1918-га году*, Беларускі Народ заявіў, што хоча быць гаспадаром свайго лёсу, ён дамагаўся толькі таго, што яму па справядлівасьці належыцца. Ён хацеў быць тым, чым яго стварыў Бог. Таму гэты дзень зьяўляецца для ўсіх беларусаў, дзе-б яны ня былі, сымбалям іхніх найбольш запаветных імкненьняў.

Так ёсьць на гэтым сьвеце, што калі мы збунтуемся супроць Бога, дык мы таксама становімся ворагамі іншых людзей, бо тады для нас няма нічога сьвятога, акрамя собскага інтарэсу. У адносінах паміж народамі гэта праяўляецца ў форме неабмежаванага шавінізму, які змушае людзей лічыць свой народ за найлепшы і адмаўляе права на існаваньне іншым.

Беларускаму народу было якраз адмоўлена права на існаваньне. Маладая беларуская дзяржава была здушаная перад тым, чым яна магла акрэпнуць. Аднак мы не павінны зайздросьціць лёсу тых, якія не далі нам жыць свабодна. Не шукайма таксама помсты: супроць іх сьведчаць перад Богам сьлёзы і цярпеньні мільёнаў тых, якіх яны анешчасьлівілі. Лепш малемся за іх, каб яны зноў зьвярнулі свае сэрцы да Бога і каб адзін дзень мы ўсе маглі быць тым, чым мы павінны быць: дзяцьмі адной сям'і, дзе бацькам ёсьць сам Бог.

Адначасова верым у справядлівасьць Божую. Дамагаймася таго, што нам справядліва належыцца і Бог нам дапаможа.

Гэтая вера у справядлівасьць Божую і надзея на лепшую долю Беларускага Народу асабліва патрэбная нам тут на выгнаньні. Будучы адарванымі ад Бацькаўшчыны і акружанымі столькімі спакусамі, мы можам вельмі лёгка зьняверыцца і пакінуць усё беларускае. Не рабем гэтага. Беларусь патрэбная перадусім для нас саміх. Калі мы забудземся пра яе, дык мы страцім нешта з нашай чалавечай вартасьці: нам тады не астанецца нічога іншага, як уключыцца ў вялікую масу тых, чыёй адзінай мэтай жыцьця ёсьць пагоня за матар'яльным дабрабытам. Але Беларусь таксама патрабуе нас. Не забываймася, чаму мы цяпер на чужыне і што мы апынуліся тут не дабравольна. Памятайма аб нашых братох на Бацькаўшчыне і будзем рабіць тое на карысьць Беларусі, чаго яны там ня ў стане цяпер рабіць. Мы павінны быць амбасадарамі Беларусі у вольным сьвеце, не даючы заснуць сумленьню іншых народаў і пагадзіцца з фактам, што наша Бацькаўшчына да гэтага часу церпіць у няволі.

Успомнім выгнанчы жыдоўскі народ, які, будучы ў бабілёнскай няволі, казаў вуснамі свайго псальміста:

Калі забуду цябе, Ерузалім,
Хай адсохне правіца мая,

Хай язык мой прыліпне да гартані маей;
Калі ня буду помніць цябе,

Калі не пастаўлю Ерузалім
За найвышэйшую радасьць маю.

Хацеў-бы скончыць гэтае казаньне ноткай радасьці. Так здарылася, што прагалошаньне незалежнасьці Беларусі адбылася ў дзень, калі Сьвятая Царква абходзіць вялікае сьвята Дабравешчаньня. У гэты дзень мы ўспамінаем тое вялікае здарэньне, калі Архангел Гаўрыіл абвесьціў Найсьвяцейшай Дзеве Марыі, што яна станецца Маткаю Бога. Гэта і ёсьць тая Добрая Вестка, якой чакала усё чалавецтва, бо з прыходам на сьвет Госпада Нашага Ісуса Хрыста мінула панаваньне граху і людзі зноў маюць магчымасьць стацца дзецьмі Божымі.

Безумоўна, тут супадзеньне датаў прыпадковае. Нам аднак усё-ж такі хацелася-б уважаць наша нацыянальнае сьвята, як добрую вестку, якая прарочыць для Беларускага Народу лепшую, шчасьлівую будучыню. Маючы ў сабе такое абяцаньне лепшай долі, нам лягчэй перанесьці цяжкасьці цяперашняга часу.

А цяпер, паколькі наша сьвята прыпадае ў дзень Дабравешчаньня, паручым асабліва сябе і ўвесь Беларускі Народ Найсьвяцейшай Багародзіцы Дзеве Марыі, якая зьяўляецца Маткаю нашага сапраўднага Жыцьця, Госпада і Бога і Збаўцы Нашага Ісуса Хрыста. Хай Яна гляне міласэрна на Ейны верны Беларускі народ і паблагаславіць яго з Жыровіцаў, Смаленска, Вострай Брамы і Менска і хай вымаліць для яго лепшую долю! А мы ведаем, што малітва Маці да свайго Боскага Сына можа усё.

*а. Аляксандар Надсон*

# Добры пастыр — Віктар Шутовіч

Радз. 27. X. 1890 г. Памёр 1. III. 1960 г.

Сапраўды годна і справядліва зрабілі Пралат Татарыновіч і В. Карасэвіч, што далі свае зацемкі аб а. Віктару Шутовічу («Зьніч» 76 — 1964). Шчасьліва такжа здарылася, што атрыманы поўныя весткі аб апошніх падзеях і сьмерці нашага Слаўнага Барадзьбіта ў Барысаве.

З свайго боку я пачуваюся да абавязку далажыць тое, што ведама мне як найбліжэйшаму таварышу Віктара ў нашай маладосьці. Я меў шчасьце быць у групе аднагодкаў беларусаў з 1890 (Шутовіч, Аўгустыновіч, Степовіч і Г.), а былі мы ў духоўнай Сэмінарыі ў Вільні (1909—1913) — калегі і прыяцелі. Стэповіч захварэў і адстаў ад нас на год, на яго месца прылучыўся В. Раманоўскі.

Шутовіч тады выглядаў зусім па-дзіцячаму: яснавалосы, чырвоненькі, пуцулаваты, з усьмешкай адкрытай, шчырай і мілай. Ён быў неабходным таварышам нашага бравага юнацтва. Дзеля павольнай беларускай рухомасьці некатарыя ўважалі Шутовіча за флегматыка, але ён, хоць нявысокага росту, сваей сілай мускулаў і характару прымушаў пераросшых з ім лічыцца. Помню, як калісьці Віктар адцяўся сьмяхуном і крытыкам: «. . . і дурань сьмяецца, як разумнаму ня ўдаецца».

Тут мушу аднатаваць здарэньне, якое не забываецца. Нас у камэры (цэлі) 16-ай было 12 малайцоў: там была спальня і прыватная навука. Якраз былі запусты, год 1910: час вольны ад навукі і набажэнстваў. Увайшло тады ў кепскі звычай, што той-іншы студэнт зьбіраў у папяровы мяшочак луску ад гарэхаў, лупіну ад яблыкаў і інш. і цікаваў укінуць у чужую спальню, дый спрытна ўцеч. Дык вось адзін наш «вораг», Язэп Б., скрадываўся да нашага 16-га нумару. Бедны, ён не бачыў, што за ім скрадываўся наш Шутовіч. І толькі той госьць браўся адчыніць нашыя дзьверы, як Шутовіч наскочыў і ўкінуў таго з мяшочкам у нашую хату! — што-ж з ім зрабіць? А ён трымаў у руках доказ сваей злой волі . . .

Нехта крыкнуў: «Ахрысьціць яго!»

Добра! Пакуль таго інтруза трымалі, Шутовіч выскачыў з вядром да ляватару (кран быў супраць нашых дзьвярэй), нацадзіў поўнае вядро халоднай вады і ўрачыста выліў на галаву нешчаснага чалавека! . . Але толькі Шутовіч канчаў хрост, як адчыніліся дзьверы і . . . на парозе стаяў сам рэктар!!! Усе здрантвелі. Рэктар быў вялізарны і грозны. Чакалі, што з ягоных вуснаў выбухне гром і ўдэрыць пярун. — Але ўсё кончылася нічым, бо рэктар-Юпітар, каб ня згубіць павагі і не разрагатацца, адступіў за дзьверы і зьбег ад усей камічнасьці сцэны.

Вось бачым, які быў Шутовіч.

Віктар меў цудоўны першы тэнар: у хоры браў лёгка найвышэйшыя тоны і ніколі ня пудлаваў і ня мучыўся. Ягоныя лёгкія, як кавальскія мяхі, былі проста нявычэрпнымі, а галасныя струны — моцнымі і далікатнымі. Солё сьпяваў бязупынна, але часьцей сам сабе: нялёгка было ўпрасіць, каб пяяў пры другіх — ня любіў фарсіць. Я ня мог наслухацца ягоных беларускіх песьняў. Асабліва запамяталася ў ягоным артыстычным выкананьні песьня: «Жыў на сьвеце

---

**ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ**

**Гэтым хочам паведаміць пра выхад з друку 2-ой кнігі «ЗАПІСАЎ» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Кніга абыймае 214 бачынкі й утрымоўвае цікавы матарыял з розных галінаў беларусаведы. Яна каштуе 3 ам. даляры або раўнавартасьць у іншаземнай валюце. «ЗАПІСЫ» можна набыць у прадстаўнікоў «Бацькаўшчыны» адпаведнай краіны. З свайго боку просім паважаных прадстаўнікоў «Бацькаўшчыны» выручаныя грошы за «ЗАПІСЫ» пераказваць на наступнае банкавае конто:**

Weissruthenisches Institut für Kunst und Wissenschaft, e. V.
Konto Nr. 377612, Bayerische Hypotheken- und Wechsel-Bank,
München (Deutschland)

**Адміністрацыя БІНІМ**

Лявон». І, сапраўды, хто праслухаў усю гэтую песьню, таму ўканцы вычувалася ясна, што «Лявоны ў нас не пазводзяцца»!

Вучыўся Шутовіч сярэдня: ня блішчэў і не западаў, а ішоў роўна, нікому не завідуючы і не канкуруючы. Наагул, ён заўсёды быў нармальным вучням і чалавекам. Дый такія людзі становяць хрыбет грамадства: цэлы свой век трываюць на адказных пазыцыях і спаўняюць абавязкі да апошняга дня. Аб такіх уласна Гасподзь сказаў: «Добра, слуга добры і верны: ты ў малым быў верны, а Я над вялікім пастаўлю цябе. — Увайдзі ў хвалу Госпада твайго!»

Віктар Шутовіч з вёскі Шутавіч, Смаргонскай парахвіі, вырас сапраўды на лоне прыроды — між палёў і лясоў — пасьвіў статак, памагаў бацьку ў гаспадарцы, матцы і сёстрам у хаце — печ абаранкі (у Смаргонях і аколіцах пяклі абаранкі на продаж). Аднак хлапца цягнула да сябе кніжка: ён скончыў школку народную і гарадзкую і пайшоў у духоўную Сэмінарыю.

Віктар змоладу адзначаўся здароўем і сілай. Пасьля навукі ў Сэмінарыі, каб не апусьціцца, ён паводле мэтоды Мюллера практыкаваў швэдзкую гімнастыку і масаж. Зрэшта, будучы на парафіі, ня чураўся фізычнай працы. Жыцьцё вёў цьвярозае і дзейнае: ні табака, ні карты, ні алькаголь яго не ўцягнулі, а наймілейшым яго таварыствам была беларуская вёска. Сам, вясковы выхаванак, Віктар знаў усе патрэбы сялян: умеў выслухаць і парадзіць, памагчы і пацешыць. Шутовічу добра было прабываць з беларускімі людзьмі — ад малога да старога. Ён станавіўся адным з іх: усе яго лічылі сваім і роўным — то бацькам, то братам. — Гэтак ён вучыў нашых цёмных людзей жыць па-людзку, жыцьцём лепшым, разумнейшым і весялейшым. А ягоная песьня чаравала ўсіх: ад яго вучыліся цаніць і любіць сваю родную песьню і яна грымела па ўсей Барадзеніцкай парафіі.

З малых гадоў Шутовіч быў прывыкшы да працы (як казалі, «здаравяка»): вось ён, перайшоўшы праз прамежныя стадыі і месцы, трапіў на свой грунт — у Барадзенічы. Гэта была вясковая парафія ў Браслаўскім павеце, у лясох, недалёка граніцы Летувы і Латвіі. Увесь быт тутака быў, можна назваць, «патрыархальны»: тут ня выветрыліся яшчэ старыя беларускія традыцыі. Дык якраз на такім добрым грунце трэба было сеяць здаровыя зерняты. І Шутовіч гэта зразумеў і ўзяўся з усей энэргіяй, воляй і ахвотай, а такжа з радасьцяй.

Каб Бог нам даў болей такіх сумленных працаўнікоў, адраджэньне Беларусі было-б запэўнена і ўскорана.

*

Разважаючы ўсё сказанае, мы муселі-б спадзявацца вельмі памысных вынікаў з дзейнасьці а. Віктара Шутовіча. Аднак-жа ён, хоць умела і ахвярна працаваў да самай сьмерці, праз свае 70 г. жыцьця даканаў надта ня шмат... Калі мы станем у думках пад ягоным помнікам, дык пачуем пякучы жаль, чаму такія выдатныя людзі, як Абрантовіч, Цікота, Станкевіч, Гадлеўскі і гэтулькі здольных адзінак і вось магутны волат працы, а. Віктар Шутовіч, проста, здаецца, не пакінулі сьледу свайго жыцьця?!

Адказ на гэта даецца ў апісаньні В. Карасэвіча ў «Зьнічу»: там бачым, колькі было ў дзейнасьці сьвятара. В. Шутовіча *перашкодаў* — варожых подступаў, нізкай злосьці і чыста фарызэйскага фальшу.

Найлепшы капітан на параплаве не даедзе памысна да мэты, калі ў часе падарожы знайдзецца варожая банда, якая будзе бунтаваць матросаў, псаваць машыны, выклікаць пажар і наагул шкодзіць караблю і камандзе.

Таксама і старанны гаспадар не атрымае добрага выніку ў працы, калі суседзі будуць злосна псаваць агарожы, пускаць у шкоду сьвіней і наагул зьдзекавацца над ім.

Мне здарылася ў апошніх гадох працы кс. Шутовіча ў Барадзенічах (1927—28) бачыць усе абставіны і вынікі ягонай там дзейнасьці. На 40-гадзінным набажэнстве, калі прыходзілася там спавядаць да 10-ці гадзін у дзень, усе людзі спавядаліся па-беларуску. На сваім казаньні я бачыў, як уважна людзі слухалі Божае слова ў роднай мове. Наагул, а. Шутовіч дзеіў у парафіі як Добры Пастыр і як разумны бацька ў сям'і. Аднак я бачыў, што вялікая будыніна прызначаная на беларускую школу і тады ўжо стаяла пад дахам, была недаконччаная, бо адміністрацыя налажыла сваю цяжкую руку і замарозіла далейшую работу. Так гэта трывала да выгнаньня кс. Шуторіча з Барадзеніч і пасьля ўжо будынак быў «адмарожаны» на польскую школу!

І як назваць усе каверзы паліцыі, польскага духавенства і інтэлігенцыі? Гэта быў нейкі фатальны *чад* польскага грамадства. Рабілі нам вялікую крыўду бяз ніякай карысьці для сябе, ні для каталіцкай веры, а ўважалі, што дзеюць з «чыстым» сумленьнем. Ламалі нашае *прыроднае* права да адраджэньня, засланяючыся сваім «Божым» правам, якое тлумачылі ў сваю нацыянальную карысьць. Польская інтэлігенцыя ужывала розныя спосабы няпраўды, прычэпкі, зьдзеку, насьмешкі і іншыя чыста *хамскія* мэтады барадзьбы з намі, забываючыся аб сваей традыцыйнай рыцарскасьці і гонары...

І кс. Шутовіча мучылі і каралі нацiскам адміністрацыі, пагрозамі, байкотам і ўсякімі спосабамі, каб застрашыць і яго і людзей-парафіян, а такжа збунтаваць супраць яго народ і г. д. Калі і гэта не памагло, яго безпадстаўна выгналі з Барадзеніч.

Пасьля гэтага я ўжо толькі выпадкова спатыкаўся з Шутовічам у Вільні, як аб гэтым ён сам успамінае ў сваіх лістох. Ізноў-жа, вярнуўшыся ў 1936 г. з Кітаю ў Вільню, я пару разоў бачыў Шутовіча. Ён, праўда, быў тойсамы наш чалавек. Але адчувалася, што гэта — дрэва, якое падчас багатага цьвету перасадзілі на благі грунт і яно там непамерна мучыцца. Такім ужо асталася ўсё далейшае жыцьцё а. Віктара.

У 1938 г. мяне таксама выгналі з Вільні, а на пачатку 1939-га мая законная ўлада паслала мяне ізноў у Манджурыю. Там зьбегла 10 гадоў маей інтэнсыўнай працы ў Харбіне, а пасьля 6 гадоў з лішкай «адпачынку» ў турме і лягерах Сібіру (чытай маю кніжку «Кітай—Сібір—Масква»). У гэтым часе ў мяне абарвалася ўсякая сувязь з усімі блізкімі ў Беларусі.

І вось, калі я быў назначаны на свабоду ў 1955 г. і трапіў ук'анцы ў Разанскую обласьць, у лягеры Потьма я неспадзявана атрымаў пасылку ад сястры а. Віктара і грашовую дапамогу. Я нават ня ведаю, скуль яна атрымала мой адрас. Праз ейную добрасьць я мог падправіць аслабеўшую сілу, якая ў мяне тады зусім занікала і гэтак дачакаць свабоды.

Там прыдарылася і другая неспадзяванка: я нечакана атрымаў з Вільні пісьмо ад кс. Віктара Шутовіча! Пісаў у сакавіку 1955 г., што вярнуўся з высылкі і што мог у Вільні у Вострай Браме адпраўляць сьв. літургію. Усё гэтае пісьмо было ўложана паводле належнай у савецкіх варунках асьцярожнасьці, што «жыўздароў і кланяюся ...» і больш ніякіх важнейшых вестак. Я яму адразу адпісаў і ўжо больш у нас кантакту ня было. У Вільні ён быў, відаць, нядоўга.

*

Апэлюю да ўсіх людзей добрай волі, хто-бы ведаў штосьці важнае з жыцьця Змагара-Мучаніка за справу рэлігійна-народную, каб адцеміў і даў да другу ў «Божым Шляхам» ці ў іншых часапісах. Можа Бог дасьць магчымасьць выдаць такія ўспаміны асобнай «мэморыяльнай» кніжкай, каб увекавечніць памяць Дастойнага добрага пастыра Віктара Шутовіча.

Вельмі пахвальны і добры ўчынак зрабілі тыя людзі, што паставілі прыгожы помнік на магіле а. Віктара ў Барысаве. Але, «каб не пагасьлі зоркі ў небе», належыць такжа запісаць усё годнае памяці пра нашага слаўнага Гэроя.

«Вечны пакой! Вечная памяць!»

*а. Я. Гэрмановіч*

# Адносіны вучоных хэмікаў да Бога і рэлігіі

(Працяг)

*Дюма (Dumas)* Жан-Андрэй (1800—1884). Выдатны францускі прафэсар хэміі ў Парыжу, адкрыў мэтады азначэньня згушчэньня і адпадкаў у арганічнай матэрыі, азначыў атамную вагу шматлікіх элемэнтаў і інш. Быў веруючым католікам і пры розных нагодах выказваў свае рэлігійныя пераканаьні. Прамаўляючы над гробам Фарадэя, казаў: «Бог зрабіў усё паводля ліку, меры і вагі. Гэтыя словы з кнігі Прамудрасьці маюць больш за 2000 гадоў і хэмікі знаходзяць у іх заўсёды верны сказ, асабліва ясны ў нашых днёх, калі хэмікі выяўляюць тыя найменшыя дрыбіны, з якіх складаецца цела».

*Бусінголь (Boussingault)* Ян-Баптіст-Язэп (1802—1887). Францускі хэмік і гэнлёг, акадэмік. Шмат працаваў разам з Лібігам у галіне арганічнае хэміі. Быў веруючым і практыкуючым.

*Лібіг (Libieg)* Юстын (1803—1873). Нямецкі хэмік, асабліва ведамыя ягоныя адкрыцьці адносна земляробства і харчаваньня. Стараючыся захаваць угнаеньні глебы ад хуткага разлажэньня, выявіў што яно ўжо зьдзейсьнена ў прыродзе. У зьвязку з гэтым пісаў: «Я быў зграшыў супраць мудрасьці Стварыцеля і атрымаў за гэта справядлівае пакараньне. Я хацеў палравіць Яго твор і ў маёй сьлепаце мне здавалася, што ў цудоўным ланцугу законаў, якія прымацоўваюць жыцьцё да паверхні Зямлі і робяць яго заўсёды сьвежым, забытае адно зьвяно, якое я, слабы і бясьсільны чарвяк, павінен дапоўніць. Але сталася сапраўды цудоўным спосабам так, што думка аб існаваньні такога закону, якога людзкі розум да таго часу не заўважыў, сьцьвярджалася шматлікімі фактамі. Аднак факты, якія гаварылі аб праўдзе, былі або нямымі, або ня чулася, што яны кажуць і рабілася памылку. Так было і са мною».

*Граам (Graham)* Тамаш (1805—1869). Першаклясны ангельскі хэмік. Вельмі вартасныя ягоныя досьледы адносна паліатомнасьці, дыфузіі газаў і цечаў, дыялізы і інш. Быў веруючым.

*Пэлюз (Pelouze)* Тэафіль-Юлі (1807—1867). Францускі хэмік, вынаходнік нітрасальфатаў, таніны Пэлюза, спарашкаванае ваты. Удасканаліў прадукцыю цукру і наагул сваімі працамі ў арганічнай хэміі заняў пачэснае мейсца. Быў веруючым і умёр пахрысьціянску.

*Бунзэн (Bunsen)* Робэрт-Вільгэльм (1811—1899). Нямецкі хэмік, які мае вялікія заслугі ў фотахэміі, зрабіў шмат вынахадаў. Ягоныя ре-

лігійныя пагляды няведамыя, але праўдападобна быў агностыкам.

*Собрэро (Sobrero)* Асканіё (1812—1888). Італьянскі хэмік, які вынайшоў нітрогліцырыну, гвайяколь, нітромоніт і інш. На ўсю Італію ён быў ведамы, як «вельмі пабожны чалавек».

*Фрэмі (Fremy)* Эдмунд (1814—1894). Францускі вучоны інжынер, які сваімі шматлікімі досьледамі шмат прычыніўся да т. зв. мадэрнае хэміі, удасканаліў квантытатыўную аналізу. Быў веруючым і ўмёр пахрысьціянску.

*Гэрард (Gerhardt)* Шарль (1816—1856). Выдатны францускі хэмік, які шмат працаваў для ўстаўленьня новае дэтэрмінацыі атамічнага цяжару. Адносна Бога і праведу няраз прынагодна выказваў свае думкі, але ў няясны спосаб, аднак недаверкам ня быў.

*Вурц (Wurtz)* Карль-Адольф (1817—1884). Францускі хэмік з Альзацыі, зрабіў шмат адкрыцьцяў у розных галінах хэміі. Быў пратэстантам лібэральнага кірунку, аднак быў веруючым, прызнаваў несьмяротнасьць душы.

*Дэвіль-сан-Клер (Deville-Saint-Claire)* Гэнрык (1818—1881). Францускі хэмік, увекавечніў сваё імя працамі адносна мэталюргіі, увёў паняцьце хэмічнае раўнавагі, вынайшоў фабрыкацыю алюмінія. Падобна да свайго брата гэалёга быў верны каталіцкай рэлігіі, не зважаючы на ўсе пагрозы, якія гэтым былі зьвязаны ў часе рэвалюцыйных рухаў.

*Кольбэ (Kolbe)* Адольф-Вільгэльм-Гэрман (1818—1884). Выдатны нямецкі хэмік, ведамы з сваіх шматлікіх сынтэзаў і арганічных камбінацыяў. Быў веруючым, хоць і непрактыкуючым.

*Каур (Cahours)* Аўгуст-Андрэй-Тамаш (1818—1891). Францускі хэмік ведамы з сваіх працаў у галіне арганічнае хэміі. Быў глыбокарэлігійным каталікам.

*Фрэзэніюс (Fresenius)* Карл-Рэмігі (1818—1897). Нямецкі вучоны, які вызначыўся сваімі працамі ў галіне аналітычнае хэміі; зрабіў шмат удасканаленьняў мэтадаў аналізы.

*Пэттэнкофэр (Pettenkofer)* Макс (1818—1901).

*Тэнар (Thenard)* Арнольд-Павал-Эдмунд (1819—1884). Францускі хэмік, сын выдатнага хэміка Людовіка-Якава і так-жа веруючы, як бацька. Быў акадэмікам.

*Рэспігі (Respighi)* Лаўрэн (1824—1889). Італьянскі астраном і хэмік, асновапаложнік астрохэміі. Быў шчыра веруючым і адданы папе Пію IX, дзеля сваіх рэлігійных перакананьняў двойчы адкінуў тэкст масонскае прысягі, які ад яго вымагаў тагачасны італьянскі ўрад. ***Л. Г.***

# Што чужыя пішуць аб нас?

Увага Рэдакцыі: Зьмешчаем бяз перакладу характэрную крытыку «Успамінаў» а. Я. Г. з часапісу **«Українець в Австралії», ч. 1—2 (169—170), січень 1964.**

КНИЖКОВА ПОЛИЦЯ

*а. Язеп Германовіч: «КІТАЙ—СІБІР—МАСКВА»* (Успаміны), друковано в друкарні «Логос», Мюнхен, 1962, з портретом автора, сторінок 292.

Спогади цього білоруського католицького священика відкриваються «Передмовою», в якій коротенько подається духова характеристика китайців та коротенький перегляд історії поширення римо-католицької, східньо-католицької та православної релігій в Китаї-Манджурії.

Спогади написані цікаво, живою білоруською мовою. А що найцікавіше то те, що о. Йосип Германович на все вбивче слідство НКВД, на совєтські тюрми й концтабори дивиться очима духовника, й гумориста. Тому й все те пекло, яке він пройшов у Совєтському Союзі не виглядає таке страшне, як воно показане в інших світських людей.

Автор спогадів належить до духовників з покликання й тому він усяке горе сприймає, як кару Божу, до терпінь завжди готовиться й терпіння зносить зі спокоєм, мужньо. А до того о. Йосип ще пересипає те все своїм даром гумору, через те читаєш про пекло червоно-московської інквізиції, а часто за боки берешся від його дотепів у тому. Безперечно, в совєтському інквізиційному пеклі, ліпше бути людиною такою як о. Йосип Германович. Але біда то в тім, що такими можуть бути лише духовники й то духовники з покликання такі як о. Йосип. А проте те пекло й йому докучало часом настільки, що він навіть кидав з тоном іронії докори Богові. А про масові людовинищування в Совєтському Союзі о. Йосип каже таке:

«Як люди гинуть в Сов. Союзі, ми нічого не можемо довідатися: вони там безслідно зникають, як камінь у глибокій воді! Історія свідчить, що ріжні режими мали свої способи винищування противників: римські цезарі розпинали, але віддавали тіла замучених. Французька революція відсікала голову ґільйотиною, але віддавала хоч посіченого. Гітлер стріляв, труїв, палив . . . але зоставався хоч попіл. А Совєтський Союз перевищив усіх — «ліквідує» . . . І вже ані за живого, ані за мертвого не залишить ніякої вістки, ані сліду!»

І ось ще раз, і ще раз талантовиті одиниці поневолених народів документують для історії

# *Весткі з рэлігійнага жыцьця*

## РЫМСКІЯ КІРЫЛА-МЯТОДАЎСКІЯ УРАЧЫСТАСЬЦІ

Мінулы 1963 год быў годам юбілейным у чэсьць вялікіх славянскіх апосталаў, сьвятых Кірыла і Мятода.

У 863-цім годзе гэтыя сьвятыя распачалі сваю апостальскую дзейнасьць сярод паўдзённых славянаў у Маравіі. Дзеля людзкой зайздрасьці і розных палітычных меркаваньняў яны былі выкіненыя адтуль, аднак іхняя дзейнасьць не прапала бяз сьледу. Вучні сьвятых братоў прадаўжалі іхнюю працу сярод баўгараў, сэрбаў, а пасьля сярод беларусаў, украінцаў і расейцаў. Уся дзейнасьць Кірыла і Мятода была пранікнутая духам Хрыста, дык і ня дзіва, што яна мела вялікі уплыў на ўсіх славянаў.

У мінулым годзе у розных кутках сьвету ладзіліся сьвяткаваньні, каб ушанаваць 1100-тыя угодкі пачатку дзейнасьці Апосталаў Славянаў. Ня мог аб гэтым не памятаць і Рым — Цэнтр Хрысьціянскага сьвету, — які у асобе папы Гадрыяна II прызнаў і адабрыў славянскі абрад і бараніў Кірыла і Мятода перад нападкамі розных хвальшывых апосталаў.

Вось кароткі прабег Кірыла-Мятодаўскіх урачыстасьцяў у Рыме.

11-га траўня 1963 г. Папа Ян XXIII выдаў пасланьне да ўсіх славянскіх япіскапаў. Ад слоў, якімі яно пачынаецца, гэтае пасланьне ёсьць ведамае пад назовам «Слаўныя падзеі» (Магніфіці Эвэнтус). У ім успамінаюцца пайменна ўсе славянскія народы, між імі і беларускі.

14-га лістапада у Сыкстынскай Капліцы ў Ватыкане адбылося урачыстае пераданьне мошчаў сьв. Кірыла Папе Паўлу VI. Сьвяты Кірыл, брат сьв. Мятода, памёр у Рыме і быў пахаваны ў базыліцы сьв. Клімэнта. У пачатку 19-га стагодзьдзя, каб захаваць мошчы сьв. Кірыла перад францускімі рэвалюцыйнымі войскамі, яны былі вывезеныя з Рыму і схаваныя у пэўным месцы. У выніку пазьнейшых палітычна-грамадзкіх закалотаў весткі аб іх зусім загінулі. Толькі ў прошлым годзе удалося а. Леанарду Бойль, дамініканцу, пасьля доўгіх студыяў і пошукаў, знайсьці частку мошчаў сьвятога ў прыватнай капліцы князёў Матэі ў мястэчку Рэканаці. Вось гэтыя мошчы і былі ўрачыста перададзеныя Папе Паўлу VI амэрыканскім япіскапам славацкага паходжаньня, Андрэям Грутко. Сярод

---

безмежну злочинність большевицько-московської держави. Хоч усі автори, що зазнали большевицько-московської інквізиції були в тому самому пеклі, але в кожного є щось таке, своєрідне, цікаве, що нема в іншого. В ціх спогадах видно авторову вроджену інтеліґенцію, спостережливість, гостроумність і надзвичайну, як для духовника, дотепність.

о. Йосип Германович є великий білоруський патріот, але разом з тим і людина. Власне *Людина з великої букви*, яких так мало є тепер на світі поміж елітами народів. Очевидно патріотів своїх країн з душами декадентів, або дикарів є мільярди на світі. А *людини між ними шукай зі свічкою*. Й, власне, до тих людей, що знаходяться зі свічкою належить й о. Йосип Германович.

У великій галерії людей, що показує автор у своїх спогадах є багато українців, яких він, майже, завжди тепло згадує. Не має латки на землі в Україні, з якої Московія не витискала б скільки може соків, і немає в Україні села чи міста в якому московський штих не спускав би української крови, й нема тюрми чи концтабору в червоній імперії, де не конали б замучені українці. Крізь большевицько-московську Голгофу проходить Україна, а з нею й нарід її.

В о. Йосифа Германовича є багато дечого від нашого Остапа Вишні, він не тратить гумору й в пеклі, навіть там сміється. А з ним і читач, читаючи про горе, не сумує, а регочеться:

«Отже тепер я повинен був молитися не тільки за здоров'я начальника, що дав добрі окуляри, але... й за злодія, що вкрав погані. Але на тому не кінець: коли мене вже манило затанцювати з радости, начальник кличе мене й каже: — А ти заплати за шкла 12 руб. і за оправу 1 рубель. — А де ж я їх вициганю? Пакунків не одержую, красти не вмію, вижебрати тут ніде, заробітку — жадного. Й зрештою советські в'язні мене обікрали, а самі Совєти мене самого вкрали з Китаю... ну й... Так я софізмами, якось заспокоїв своє таборове сумління, що можу одержати окуляри «по блату»...

Або ось таке характерне місце в цих цікавих спогадах: «Своє горе ми ділили на дві рівні частини, й воно — розбите — не могло нам міцно шкодити. І ось ми, цілковиті інваліди, голодні, як буває в Сов. Союзі, а тимбільше в концтаборах (не в показових, а в звичайних), ми — в горі й печалі — сміялися й жартували, як малі хлопчики... Ми кепкували з своїх ворогів, ділилися останніми кришинами — жили справді по-братерському». Конаючи в кігтях ворога з голоду, кепкувати з нього й сміятися смерті в очі, це вже перемога над ворогом! Це перемога *людини* над совєтським дикунством, сьогодні лише духом, а завтра тілом. Катакомби християнства не знищили, не знищить московський большевизм пострілами в потилицю, концтаборами й *людського в людині*. *Людина* з тих пекельних мук вийде обновленою, зміцненою, й вона таки переможе червону московську дикунську тиранію.

*О. Верес.*

шматлікіх прысутных дастойнікаў былі таксама Дастойныя Ўладыкі Беларусаў Слоскан, Апостальскі Адміністратар Менскі і Магілёўскі і Часлаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар для Беларусаў.

Заканчэньнем юбілейных сьвяткаваньняў была ўрачыстая сьв. Літургія 17-га лістапада ў базыліцы сьв. Клімэнта ў прысутнасьці і пры ўдзеле Папы Паўла VI. Літургію служылі япіскапы Кірыл Курцеў (баўгар), Андрэй Каткоў (расеец), Часлаў Сіповіч (беларус) у саслужэньні з а.а. Вялікім (украінец), Ольшр (чэх) і Лячко (славак). Прысутнічалі на Літургіі кардыналы Тысэран, Чыканьяні, Тэста, Вышынскі, Мітрапаліт Сьліпый, Архіяпіскап Бучка і шмат іншых высокіх дастойнікаў. Прыгожа сьпявалі хоры украінскай і расейскай рымскіх калегіяў.

## УЛАДЫКА ЧАСЛАЎ НА ВЫСТАЎЦЫ ПРАСЬЛЕДАВАНАЙ ЦАРКВЫ

Ужо амаль два гады ў Рыме існуе выстаўка Прасьледаванай Царквы. Зарганізаваная італьянскім сьвятаром, а. Дамінікам К'янэльлі, яна мае за мэту прыпамінаць вольнаму сьвету, што сяньня яшчэ мільёны хрысьціянаў пазбаўлены права свабодна славіць свайго Тварца. Аддаўшы выстаўку




*Беларускі Аддзел выстаўкі Прасьледаванай Царквы у Рыме.*

пад асаблівую апеку Найсьвяцейшай Багародзіцы, якая «ў сьлёзах і крыві мучанай Царквы бачыць аднаўленьне мукаў свайго Сына», арганізатар ахвяраваў яе ў чэсьць тых япіскапаў, якія з прычыны прасьледаў не маглі ўзяць удзелу ў Усяленскім Саборы.

На выстаўцы прадстаўленыя ўсе народы, якія знайходзяцца пад камуністычнай уладай, пачынаючы ад Беларусаў і Украінцаў, што церпяць праследы ўжо амаль поўвеку, і канчаючы на такіх новых як Паўночны В'етнам і Куба.

У часе працаў Усяленскага Сабору выстаўку адведалі амаль усе яго удзельнікі. Цапер а. К'янэльлі робіць з ею аб'езд усіх большых гарадоў Італіі.

У нядзелю 23-га лютага Дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар для Беларусаў, на запросіны а. К'янэльлі, адслужыў сьв. Літургію ў царкве сьв. Фэлікса ў Рыме у саслужэньні з а. К. Маскалікам. У сваім казаньні Уладыка зьвярнуў асаблівую ўвагу на прасьлед Царквы на Беларусі. Пасьля сьв. Літургіі Уладыка адведаў выстаўку, затрымаўшыся асабліва пры беларускім аддзеле.

## 500-ТЫЯ УГОДКІ СЬМЕРЦІ МІТРАПАЛІТА ІЗЫДАРА

У нядзелю 8-га сакавіка ў базыліцы 12-ці Апосталаў у Рыме была адслужаная урачыстая сьв. Літургія з нагоды 500-тых угодкаў сьмерці Кардынала Ізыдара, Мітрапаліта Кіеўскага. Служыў сьв. Літургію Мітрапаліт Я. Сьліпый у саслужэньні з мітрапалітам Гэрманюком, архіепіскапамі Бучкам і Буkаткам, япіскапам Ч. Сіповічам, Архімандрытам Т. Мінішчы, а таксама рэктарамі рымскіх калегіяў Грэцкай, Украінскай і Расейскай. Сьпяваў хор меньшай Украінскай Сэмінарыі.

Слова аб жыцьці і дзейнасьці Ізыдара сказаў Дастойны Мітрапаліт Сьліпый. З беларусаў на Літургіі былі прысутныя пралат П. Татарыновіч і а. К. Маскалік.

## ВЫСТУПЛЕНЬНІ УЛАДЫКІ ЧАСЛАВА Ў ВАТЫКАНСКІМ РАДЫЁ

У сераду 11-га сакавіка Уладыка Часлаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар для Беларусаў, гаварыў у Ватыканскім Радыё па італьянску на тэму: «Рэлігійная спадчына адлучаных братоў». Ягоная гутарка была адной з цыклю штодзённых гутарак пад агульным загалоўкам «Жывы Хрыстос — жывая Царква». У гэтым цыклю, які цягнуўся ад 11-га лютага да 22-га сакавіка, узяло удзел 40 япіскапаў. Хутка ўсе гэтыя гутаркі маюць выйсьці асобнай кніжкай у італьянскай мове.

У Вялікую Сыботу 28-га сакавіка Дастойны Уладыка гаварыў праз тое-ж Ватыканскае Радыё па беларуску з нагоды Вялікадня.

Ягоную гутарку можна было чуць у шматлікіх краінах Заходняй Эўропы, хоць камуністы стараліся яе заглушыць.

## УРАЧЫСТАСЬЦІ Ў ЧЭСЬЦЬ СЬВ. КАЗІМІРА

У гэтым годзе ў Рыме сьвяткаваньні у чэсьць сьв. Казіміра, патрона народаў Вялікага Княства Літоўскага, былі ладжаныя супольна беларусамі, літоўцамі і палякамі. З гэтай нагоды ў сераду 4-га

сакавіка ў капліцы Літоўскай Калегіі Дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч, у саслужэньні з а. а. Маскалікам і Пупінісам, адслужыў урачыстую сьв. Літургію. На Літургіі былі прысутныя архіепіскапы Чэнтос і Гауліна, а таксама шмат сьвтароў розных нацыянальнасьцяў. Кардынал Язэп Піццарда ў канцы ўрачыстасьці благаславіў прысутных Сьвятымі Дарамі.

### НОВАЕ СТАНОВІШЧА ДЛЯ ПРАЛ. П. ТАТАРЫНОВІЧА

Кансыстарыяльная Кангрэгацыя пры Апостальскім Пасадзе назначыла 21-га студз. г. г. а. Пралата П. Татарыновіча дырэктарам душпастыраў лацінскага абраду сярод беларускай эміграцыі. Дагэтуль гэтае становішча было займанае Дастойным Уладыкам Балеславам Слосканам, які аднак павінен быў з яго зрачыся апошнім часам з прычыны здароўя. Уладыка Балеслаў астаецца надалей сябрам беларускай гіерархіі ў сваім характары Апостальскага Адміністратара Менскага і Магілеўскага.

## З РЭЛІГІЙНАГА ЖЫЦЬЦЯ НА СЬВЕЦЕ

ЭКУМЭНІЧНЫ РУХ. Гэта зусім ёсьць новая зьява у царкоўным жыцьці, якая зьвязана з асобай Рымскага Папы Яна XXIII-га: перамяніўся настрой, «клімат», паміж Каталіцкай Царквой і Праваслаўнай, а нават Англіканскай і шмат іншымі цэрквамі. Тут дзеіць уплыў Ватыканскага Сабору.

Папа Павал VI ня толькі не затрымаў гэтых кантактаў (як некатарыя баяліся), але яшчэ больш паглыбіў іх. Ведама, што ў Еразоліме адбылося гістарычнае спатканьне з Патрырхам Атэнагорам з Канстантынопаля і з Патр. Бэнэдыктам з Ерузаліму і з Патрыярхам Армянскім (Монофізыцкім).

Спадзяваліся, што прыбудзе ў Ерусалім і Патрыарх Маскоўскі, але таго затрымала не здароўе, а шмат хто казаў, што Саветы пабаяліся яго пусьціць. З усяго відаць, што Маскоўская Патрыярхія шчыра жадае ўтрымліваць кантакт з Рымам. Факты: 1. Ад Маск. Патрыярха былі абсэрватары на Ватыканскім Саборы і Ад Папы былі дэлегаты на юбілеі Патрыярха ў Маскве (14-21. VII. 1963 г.). 2. Быў абмен тэлеграмамі паміж Папай і Патрыярхам:

«Із зямлі, што была асьвячана жыцьцём і ускросам нашага Госпада-Слова, стаўшага чалавекам, — успамінаючы брацкую і хрысьціянскую супрацу Вашых абсэрватараў на Другім Саборы ў Ватыкане і ўпэўняючы Вас аб нашай малітве, мы Вам пасылаем нашыя найлепшыя пажаданьні міра і шчасьця».

Ерузалем, 5 студня 1964 году.

Павал VI, Папа

«Я вельмі узрушаны высокай увагай Вашай Сьвятасьці, атрыманай са Сьвятога Гораду, і выражаю Вам маю сардэчную ўдзячнасьць і маё ўзаемнае жаданьне дабрадзейных нябескіх дараў і багаслаўлёнага міру ўсім народам.

Масква, 6 студня 1964 году.

Аляксей, Патр. Маск.

ЖУРНАЛ МАСКОЎСКАЙ ПАТРЫЯРХІІ, 1964. нумар 2-гі.

Вельмі прыхільна апісана ў рэцэнзіі Ал. Казэм -Бэк-а І.-я Сэсія Ватыканскага Сабору.

«Да ІІ сэсіі Ват. Сабору выяўляўся інтэрас у кругох сусьветнага грамадзтва... ІІ-гі Ват. Сабор і нават, можна сказаць, востра датычыць да глыбокіх і інтымных перажываньняў сотняў мільёнаў каталікоў. Ужо дзеля таго ён у большай ці меншай меры адбіваецца на веруючых іншых цэркваў. Да вынікаў Сабору ня могуць быць абыякавымі наагул усе... І цяпер, у пачатку 1964 году, ужо ясна, што з гэтым Саборам закончылася цэлая эра ў гісторыі царкоўнага Рыму І адчынілася новая эпока, зачыніўся агромны том і перад намі — новая бачына, у якую ўпісываюцца новыя, і вельмі шмат каму нечаканыя, радкі.

Другая сэсія адчынілася ў атмасфэры большай пэўнасьці саборных айцоў у свёй сіле, слушнасьці і магчымасьцяў...

Для прадстаўнікоў другіх хрысьціянскіх цэркваў ня было ніякіх зачыняных дзьвярэй. Гэта адна з самых цікавых і важных рысаў цяперашняга Сабору.»

«Усё гэта дае нам падставу надзеіцца на плённую работу і дабратворныя рэзультаты ІІІ сэсіі Сабору, назначанай на час паміж 14 верасьня і 20 лістапада гэтага году. Бяз сумніву ў хрысьціянскіх кругох з першым інтарэсам будуць наглядаць працу наступнай сэсіі і прыгатаваньне да яе.

Сабор пачаўся у 1962 годзе заклікам да міру, да сацыяльнай і нацыянальнай справядлівасьці. Дзеля таго мы спадзяёмся, што Ват. Сабор і ў будучыні паслужыць да ўмацаваньня адзінства духу ў саюзе міру, да якога заклікаў нас сьв. апостал Павал (Эфэс. 4, 18).»

*

Яшчэ дасюль ніколі — ні за часоў царскіх, ні тымболш пры бальшавіках — Праваслаўная Царква ў Расеі не аказала такога зразуменьня і прыхільнасьці да Каталіцкай Царквы, як апошнія гады. — Паўтараем: перамяніўся настрой і зьмяніўся «клімат» хрысьціянскіх адносінаў. Дай, Божа, да лепшага!

ПАПА І ПАТРЫЯРХ. Пры спатканьні 5. 1. 1964 г. 1. адмовілі разам малітву ОЙЧА НАШ, за грэх разлукі і за злучэньне, 2. І зара абняліся ў прывітаньні на знак згоды і волі аб'яднаньня, 3. цяпер адмовілі вершы з разьдзелу XVII Эвангэліі Яна — «каб былі адно...», 4. Ра.ам далі багаславенства ўсім прысутным, што там былі. 5. Папа падараваў Патрыярху залаты келіх, а Патрыярх аб'явіў прадстаўнікам прэсы, што горача жадаў дачакаць дня, калі будзе магчы разам з Папам зьмешаць у гэтым келіху хлеб і віно для сьвятой Эўхарыстыі. 6. Патрыярх падараваў Папе прыгожую панагію і памог Папе узлажыць яе на шыю, а прысутныя усклікнулі па грэцку: «Аксіос! Аксіос! Аксіос!, значыць «годны». 7. У тыдзень пасьля Патрыярх паслаў Папе тры фляконы віна з выспы Патмос, куды быў калісьці сасланы сьв. Ян Апостал: віно для сьвятой службы. Папа на гэта адказаў, што гэта віно сымбалізуе сталую лучнасьць у адной Хрыстовай эхвяры і удзел у тымсамым сьвятарстве.

Праўда, разьдзел цэркваў гэтым яшчэ не закончыўся, але быў зроблены добры пачатак лучнасьці і маемо вялікую ў Богу надзею, што да поўнага злучэньня паволі даходзім. Патрыярх высказаў Папе сваю вялікую радасьць што на Ватыканскім Саборы была прынятая рэформа літургіі ў духу злучэньня з Усходам.

Разьдзел цэркваў у 1054 г быў вялікім нешчасьцем і згаршэньнем для ўсяго сьвету, дзеля таго ніхто з Хрысьціянаў ня можа жадаць, каб трываў далей. Усе молімся аб злучэньні, «каб усе былі адно», а гэта-ж ёсьць малітва Самога Хрыста. Імкненьне каталікоў і праваслаўных да адзінства ўплывае і на пратэстантаў, якія пачалі працу аб'ядна-ньня між сабою — у іх да 200 асобных цэркваў! — а также хочуць навязываць размовы з праваслаўнымі і каталікамі.

МАСКВА. ПАТРЫЯРХ АЛЯКСЕЙ сказаў ў інтэрвью: (аб спатканьні Папы Паўла VI з Патрыярхам Атэнагорасам і з Патр. Бэнэдыктосам — Іерасалімскім): «Мы думаем, што далейшае разьвіцьцё кантактаў можа прывесьці да дыялёгу паміж Цэрквамі, у якім з боку праваслаўных павінны ўчасьнічаць прадстаўнікі ўсіх лёкальных Цэркваў».

«Мы бачым пэрспэктыву разьвіцьця адносінаў паміж Царквой Каталіцкай рымскай і Царквой Праваслаўнай у іх супольнай мэце, каб споўніць загад Хрыста Спасіцеля, адносна лучнасьці. (Ян 17, 21-23). Таксама, каб Цэрквы споўнілі свой супольны абавязак: давесьці да згоды чалавецтва да міру трывалага і справядлівага паміж народамі.»

МАСКВА. — Для барадзьбы з *рэлігіяй* выбрана пры Цэнтральным Камітэце спэцыяльная Камісія, якой шэфам ёсьць «спэц ад культуры» М. Ільічов. Камісія ставіць сваей мэтай — «выкараніць рэлігію» ў Савецкім Саюзе.

Ільічов дамагаецца зрабіць гэта ў блізкай будучыне. Ён моцна крытыкуе Сталіна, што той аслабіў прасьлед рэлігіі падчас вайны 1941—45 г. Дае прыклад, што ў Таджыкістане тады антырэлігійныя музэі сталі месцам музульманскага набажэнства.

Пры гэтым Ільічов, як падступны злы дух, юдзіць, што рэлігія і веруючыя людзі становяцца «інструмэнтам заходняга імпэр'ялізму».

Успомненая Камісія — бязбожная арганізацыя пры Савецкім Урадзе — пастанавіла:

1) Стварыць у унівэрсытэтах *катэдры атэізму*.

2) Прадукаваць большы лік антырэлігійных *фільмаў*.

3) Замяніць рэлігійныя сьвяточныя дні на сьвяткі сьвецкія.

4) Стварыць у школах элемэнтарных і сярэдніх антырэлігійныя асяродкі — *клюбы*.

ТУРЦЫЯ. Вялікую групу прадстаўнікоў каталіцкага духавества прыняў у Фанары, у царкве Сьв. Юра, Патрыярх Атэнагорас. Там усе разам з Патрыярхам адмовілі супольна малітву «Ойча наш», а пасьля пеялі гымны ў чэсьць Багародзіцы.

У сваей прамове Патрыярх сказаў: «Мы глядзім у прышласьць . . . якая так шчасьліва адчынілася ў Іерузоліме», гэта датычна ягонага спатканьня з Паўлам VI.

*Увага Рэдакцыі:* Ці не пара Беларусам перарваць запозьненыя спрэчкі, а пры спатканьні каталікоў і праваслаўных, разам з іхным духавенствам, адмаўляць супольна «Ойча Наш»? . .

СТАТЫСТЫКА: Праф. Клем. Олівьер падае ў «Ле Монд» лік праваслаўных у ва ўсім сьвеце:

У Расеі да 120 мільёнаў ахрышчаных, у Сэрбіі — 8 міл., у Баўгарыі — 6 міл., у Грэцыі — 10 міл. Сярод арабаў да 600 тысяч. У Чэхаславацыі — 400 тыс., у Польшчы — 350 тыс., у Фінляндыі — 80 тыс., у Мадзяршчыне — 40 тыс., у Паўн. Амэрыцы да 6-ці мільёнаў, у Паўдз. Амэрыцы 500 тыс., у Францыі — 150 тыс. У іншых краёх Зах. Эўропы каля 150 тыс. У Аўстраліі — 200 тыс. У Кітаі, Японіі, Карэі — 60 тыс. У Цэнтр. Афрыцы — 30 тыс.

ЭКВАТАР. — У рэспубліцы Экватар у гор. Квіто адбыўся 8-мы Кангрэс усе-амэрыканскі. Тэма: *Каталіцкае навучаньне.* Патрэба з'уніфікававаць каталіцкае навучаньне ува усей Лацінскай Амэрыцы!

Гэтага дамагаецца агульны занепад — сацыяльны, эканамічны і палітычны. Трэба зарганізаваць прагрэсыўную пляновасьць у лучнасьці, пачынаючы ад асобных дыэцэзіяў, нацыяў і ўсяго контынэнту.

Для гэтага пастаноўлена выбраць спэцыяльную камісію, каб апрацавала новыя тасоўныя праграмы для школаў пачатковых, сярэдніх і вышэйшых, і також для духоўных сэмінарыяў.

Кангрэс адбыўся у канцы студня гэтага году.

КАШМІР. — Гэты край ляжыць на поўначы паміж Індыяй і Пакістанам: абедзьве староны хочуць перацягнуць Кашмір да сябе. У вялікіх спрэчках у Кашміры згінуў з сьвятыні *волас* Магамэта, якобы нехта ўкраў. Справа пагражала бунтам і вайной паміж Індыяй і Пакістанам. Пасьля нейк той волас знайшоўся: была радасьць. Аднак паўстала сумневаньне, ці волас праўдзівы? Дык зноў — непаразуменьне . . .

ЧЫЛІ, ПАЎДЗ. АМЭРЫКА. — Кардынал Сільва Гэнрыкуез, арцыбіскуп у Сантяго пазволіў у сваей дыэцэзіі новую, нябывалую практыку апостальства: вось у часе набажэнства ў касьцёлах будуць прамаўляць *сьвецкія* людзі. Яны да гэтага будуць спэцыяльна прыгатаваны.

Гэтая практыка мае быць уведзеная ў 150 парафіях дыэцэзіі Сантяго.

Прычына: вялікі брак духавенства ў рэспубліцы Чылі, як і ў ва ўсей Паўдзённай Амэрыцы. Дзеля гэтага народ паволі вяртаецца ў навачаснае паганства, значыць, патрэбныя і навачасныя спосабы апастольства.

ФРАНЦЫЯ. Ведамы а. Дюваль, манах-іезуіт, ад 1957 г. выступае з гітарай на сцэнах тэатраў, пяючы рэлігійныя і нават сьвецкія песьні. Ягоны мягкі, прыемны бас чаруе слухачоў, а грамафонныя пліткі расходзяцца па цэлым сьвеце. Дюваль пранікае ў асяродкі атэістычныя і вядзе рэлігійную прапаганду сваей песьняй.

Прыклад Дюваля пацягнуў іншых. Манахіня Люц, Габріель, домініканка з Бэльгіі, таксама зрабіла «кар'еру» на сцэне з гітарай. Ейныя пліткі пайшлі ў сьвет вельмі бойка. За адну толькі песьню аб Сьв. Дамініку яна зарабіла 100.000 ф. ст. Але кажа, што маемасьць усяго сьвету ня мае для яе ніякага значаньня, а ўсе даходы ідуць на патрэбы закону і на місіі.

КОНГО. — На II-ой Сэсіі Сабору ўсе Біскупы Конго ў ліку 47 выдалі супольны пастырскі ліст да каталікоў свайго краю. Галоўная думка гэтага лісту: *Будаваць нацыю!*

Разьдзел I-ы: *Пазнаць сытуацыю.* У цэлым краю агульная бяда — у жыцьці публічным, эканамічным. Усе нездаволены. Але, кажуць біскупы, «не наракаць і крытыкаваць трэба, але *будаваць!*»

Разьдзел II-гі: Каб устанавіць парадак, трэба ўсім працаваць для *агульнага дабра.* А гэтае дабро палегае на ПРАЎДЗЕ, СПРАВЯДЛІВАСЬЦІ, ЛЮБОВІ і ВОЛЬНАСЬЦІ. Трэба добра разважаць усе патрэбы, мабілізаваць масы і арганізаваць іх паводле звычаяў старых — народных.

Разьдзел III-ці: Вельмі важная справа — арганізацыя самой *ўлады.* Прынцып: *урадоўцы* — гэта *слугі* дзяржавы. На няшчасьце, у маладых афрыканскіх гаспадарствах урадоўцы арганізуюць сваю новую *касту* паноў з прывілегіямі... Не павінны ў урад уваходзіць людзі, якія хочуць збагаціцца самі і збагаціць сваіх, ці сваю кучку-гуртоk.

Раздзел IV-ы: Якія *абавязкі* грамадзян?

Нельга быць абыякавым да агульных справаў дзяржавы! Трэба, каб каталікі пачуваліся адказнымі за справы агулу. Царква не жадае займацца палітыкай і не арганізуе сваей партыі. Няхай кажны сам выбірае сабе адпаведную партыю, толькі хай глядзіць, каб у ёй былі захаваныя правы прыродныя і хрысьціянскія.

Біскупы заканчваюць: «Трэба ўсім *працаваць!* I працаваць шчыра; а каталікі павінны ўзяць да сэрца абавязак — увесьці парадак ува ўсім краю».

ШВЭЦЫЯ. — Дабрабыт такі вялікі, што ўвесь сьвет ім завідуе, але самабойствы так частыя, што ўсе дзівуюцца. Кажуць, што прычынай гэтага ёсьць бязьмерная нуда: моладзь ня ведае, дзеля чаго жыць і да чаго імкнуцца? — Нам здаецца, што да такой бязідэйнасьці давёў індыфэрэнтызм. Пратэстантызм, які там зьяўляецца ўрадовай рэлігіяй, нічым ня імпануе — гэта рэлігія, ў якой, як кажуць, «лёгка жыць, але цяжка ўміраць». Падобная сытуацыя пануе ў Швайцарыі.

ПОЛЬШЧА. — Урад прымусова выклікае з духоўных сэмінарыяў і з кляштараў клерыкаў у войска на два гады, перарываючы ім студыі. Там стараюцца выхаваць іх у атэістычным духу, а выпускаючы — адарваць ад Божай службы і ад веры ў Бога.

Да гэтага часу прапаганда не дае рэзультату: клерыкі пасьля перарыву зноў вяртаюцца ў сэмінарыі і кляштары. Выняткі бываюць вельмі рэдкія.

## ЦАРКОЎНЫЯ ВЕСТКІ

РЫМ, ВАТЫКАН. — Папа Павал VI вядзе жыцьцё вельмі актыўнае: 6 I. вечарам вярнуўся з Сьв. Зямлі; 10. I. рэвізытаваў італьянскага прэзыдэнта ў Рыме, Сэньі, у Квірынале (гэта ёсьць даўнейшы папскі палац, які быў адабраны ад папаў у 1870 г. калі італьянцы забралі Рым).

Гаворыцца аб прышлай візыце Папы ў Міляно, дзе прабываў Павал VI перад сваім выбарам. Пасьля таксама гавораць аб паездцы Папы ў Бамбэй сёлетняй восені на Эўхарыстычны Кангрэс у Індыі. I такжа спадзяюцца вызыты ў Паўн. Штаты Амэрыкі.

ВАТЫКАН. — Папа Павал VI назначыў Камісыю — «Літургічную-пасаборную» — Яна мае разважыць, як увесьці ў практыку пастановы II-ой Сесіі Сабору аб *рэформе* Літургіі, мяноўна, як уводзіць у Божрю Службу замест лаціны *нацыянальную мову.*

У Камісію ўваходзіць 42 члены — 10 кардыналаў, 28 біскупаў і 4 сьвятары з 26 краёў сьвету. Камісія выдасьць належныя інструкцыі, як праводзіць рэформу — бяз посьпеху, паважна і з належнай пашанай для такой сьвятой справы — для большай хвалы Божай і для аблягчэньня эвангелізацыі цяперашняга сьвету.

ВАТЫКАН. — Папа заклікае спэцыяльным лістом з дня 22 лістапада 1963 г. да арганізацыі «Таварыства сьвятой *музыкі».* Мэта: у зьвязку з рэформай літургіі приступіць да таго, каб лепш уладзіць касьцельны сьпеў і музыку. Патронкай сьпеву і музыкі будзе Сьв. Цэцылія.

ВАТЫКАН. — Такжа ў зьвязку з рэформай літургіі Папа Павал VI стварыў Інстытут для мовы *лацінскай* у Рыме, як гэта праектаваў Папа Ян XXIII перад сваёй сьмерцяй. Людзі жадаюць у набажэнстве сваёй мовы нацыянальнай, але Царква ўважае, што захаваньне традыцыі вельмі важна, кам старая і «шаноўная» мова лацінская ня была занедбана і забыта. Для гэтага патрэбны спэцыялісты-прафэсары ў духоўных школах і фундуецца асобны Інстытут, дзе будуць праз 4 гады шыкавацца здольныя лінгвісты.

# Прамова сьв. Іоана Хрызастома

(У Мэтафрастэн).

Сын Божы выбраў не багатую або заможную жанчыну, каб была яму маткай, але багаслаўлёную Дзеву, якой душа была ўпрыгожана цнотамі. Калі-бо сьвятая Марыя звыш усей людзкой натуры захавала чыстасьць, дык пачала ў лоне Хрыста Госпада. Дык вось да гэтае найсьвяцейшае Дзевы і Божае Маткі прыбягаючы, адчуваем ейную апеку. Тады-ж усенькія дзевы прыбягайце да Божае Маці, і яна захавае для вас валадарства найпрыгажэйшае, найдаражэйшае і самае нявіннае.

Вялікім сапраўды цудам, даражэнькія бра-

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Англія:

## 1. СЬВЯТКАВАНЬНЕ УГОДКАЎ СТУДЗЕНСКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

У сыботу 22-га лютага ў Лёндане адбылося сьвяткаваньне ўгодкаў Студзенскага Паўстаньня 1863 г., ладжанае супольнымі сіламі мясцовых беларускіх, літоўскіх і польскіх арганізацыяў.

Саля, дзе адбывалася сьвяткаваньне, была ўпрыгожаная сьцягамі трох народаў і партрэтамі герояў Студзенскага Паўстаньня: беларуса Кастуся Каліноўскага, літоўца а. А. Мацкевічуса і паляка З. Сераkоўскага. Гэтыя героі былі таксама прадметамі дакладаў, зробленых прадстаўнікамі ад кожнага з даных народаў. Ад беларусаў аб Кастусю Каліноўскім гаварыў а. Леў Гарошка.



*Сьвяткаваньне ў Лёндане ўгодкаў Студзеньскага Паўстаньня 1863 году. Прамаўляе а. Леў Гарошка.*

Кожны з прамоўцаў гаварыў на сваей роднай мове, а пасьля былі падааныя у скароце ангельскія тлумачэньні іхніх дакладаў.

У мастацкай частцы трэба адзначыць прыгожае выкананьне беларускай песьні «Жыў на сьвеце Лявон».

## 2. УРАЧЫСТАЯ ЛІТУРГІЯ Ў ЛЁНДАНЕ

На запросіны ангельскага Таварыства сьв. Яна Залатавуснага, у нядзелю 1-га сакавіка а. А. Надсон прачытаў даклад аб пачытаньні сьв. Крыжа сярод усходніх Хрысьціянаў і адслужыў сьв. Літургію. Даклад і Літургія адбываліся у манастыры Унебаўзяцьця (Ассампшн Конвэнт) у Лёндане. Сьпяваў хор Школы сьв. Кірыла Тураўскага на беларускія літургічныя напевы. Гэта быў першы выступ школы навонкі паза беларускім асяродзьдзем. Калі судзіць па одзывах прысутных чужынцаў, дык гэты выступ меў вялікі посьпех.

## 3. САКАВІКОВЫЯ СЬВЯТЫ Ў ЛЁНДАНЕ

У сераду 25-га Сакавіка вечарам у беларускай царкве сьв. Пятра і Паўла у Лёндане а. Гэрмановіч у саслужэньні з а. А. Надсонам адслужылі сьв. Літургію за Беларусь. Прыгоднае казаньне (замешчанае у гэтым нумары) сказаў а. А. Надсон. Сьпяваў хор Школы сьв. Кірыла Тураўскага. Для вучняў школы гэта быў апошні дзень у Лёндане, перад тым чым раз'ехацца на Вялікодныя канікулы. Такім чынам яны закончылі навучальную чвэрць і распачалі канікулы малітваю за Беларусь.

Урачыстая акадэмія прысьвечаная 46-ым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылася ў сыботу 4-га красавіка ў Беларускім Доме. Прамаўлялі Старшыня Згуртаваньня Беларусоў у Вялікай Брытаніі сп. Ул. Бутрымовіч, а таксама сп. А. Зданковіч, які прачытаў даклад на тэму дня. Сп. В. Варган, удзельнік Першага Усебеларускага Кангрэсу, падзяліўся з прысутнымі ўспамінамі з таго часу.

Францыя:

## САКАВІКОВЫЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ Ў ПАРЫЖЫ

Сьвяткаваньне 46-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылося ў гэтым годзе ў Парыжы ў нядзелю 22-га сакавіка.

Раніцай гэтага дня у капліцы сьв. Людовіка на Монпарнасс а. Леў Гарошка адслужыў сьв. Літургію за Беларусь. Прыгожа сьпяваў беларускія літургічныя напевы хор французскіх студэнтаў сьв. Ірынэя пад кіраўніцтвам сп. Г. дэ ля Прадэль.

По паўдні адбылася ўрачыстая акадэмія, на якой былі прысутныя Старшыня Рады БНР Інж. М. Абрамчык, а таксама шматлікія літоўскія, украінскія і французскія госьці. Даклад на тэму дня прачытаў сп. М. Наумовіч. Прамаўлялі сп. М. Абрамчык і прадстаўнікі ад іншых народаў.

ты, была заўсёды багаслаўлёная Дзева Марыя. Што-ж і ў якім часе можна знайсьці больш слаўнае за яе? Яна толькі адна перавысіла сваёй веліччу неба і зямлю. Што ёсьць ад яе сьвяцейшае? Ані Прарокі, ані Апосталы, ані Мучанікі, ані Патрыярхі, ані Анёлы... Ні Сэрафіны, ні Хэрубіны; ні што іншае паміж тварэньнямі бачнымі і нябачнымі можа знайсьціся ад яе большае або слаўнейшае. Яна адначасова слуга і маці, адначасова Дзева і Багародзіца.

Яна ёсьць матка таго, які ўроджаны праз Айца перад пачаткам усяго: якога Анёлы і людзі прызнаюць Госпадам усяго. А ці хочаш пазнаць наколькі Дзева перавышае нябесныя Моцы? Яны з боязняй і дрыжэньнем прысутныя, закрываюць сваё аблічча; а яна дала людзкую прыроду таму, каго нарадзіла. І праз яе мы атрымалі адпушчэньне грахоў. Дык вітай, матка, неба, дзяўчынка, Дзева, трон, аздоба нашае Царквы, хвала і апора. Старанна малі за нас Ісуса, Сына твайго і нашага Госпада, каб мы праз Ягонае міласэрдзе маглі ў судны дзень знайсьці ўсё, што назначана тым, якія любяць Бога — праз ласку і дабрату Госпада нашага Ісуса Хрыста; з ім няхай будзе хвала і чэсьць і панаваньне Богу Айцу з Сьвятым Духам цяпер і заўсёды і на векі вечныя. Аман.

# З лістоў у Рэдакцыю:

АМЭРЫКА, НЬЮ ДЖЭРСІ: — Дасылаю Вам 4 экз. беларускага «Лемантара» Заранка. Гэты Лемантар болей за год пісаўся. Трэба будзе разаслаць для збыту, але ня ведаю, каму слаць, бо ня маю знаёмых, а тым болей у Эўропе (Нямеччыне, Англіі, Францыі). Ці не магла-б Ваша школа ў Англіі заняцца гэтай справай? А калі не, дык можа Вы каго-б парадзілі?

Што новага ў Вас? Можа Вы, а. Язэп, рыхтуецесе перавыдаць сваё апавяданьне пад назовам «Хлапец»? Усё гэта было-б добра, але-ж напэўна ўсюды адна прычына: Грошы няма? «Купіў-бы сяло, дык грошы гало».

На цэлы тыдзень спазьніўся выслаць гэту пачку, але ўчэра дастаў Ваш часапіс «Божым Шляхам», дык і адрас маю. Вось і высылаю.

З пашанаю І. Г.

*Ад Рэдакцыі:* — Вельмі дзякуем за прысланы Лемантар! Надта ўсім падабаецца: выданы чыста, на добрай паперы, малюнкі нашыя — беларускія. Апрацаваны практычна і зразумела пачынаючым дзеткам, а нават цікава і старшым. Спадзяёмся, што ахвотна яго прыймуць усе Беларусы і аплацяць затрачаныя сродкі. Добра такжа сталася, што друкаваны лацінкай і гражданкай.

АЎСТРАЛІЯ, ФАЙРФІЛЬД: — Дужа дзякую за прысланую газэту «Божым Шляхам». На маю думку, калі ён будзе мець грамадзка-хрысьціянскі характар, то можа лічыць на пасьпех. Сягоньняшняе грамадзянства ёсьць змучанае навучаньнем і тэорыямі, яно жадае спакойнага абмеркаваньня рожных праблемаў, чыстай паэзіі, добрых грамадзкіх і прыватных навін. У нас напр. газэты не вядуць пэрсанальнай хронікі аб жыцьці студэнтаў, мастакоў, вучоных; не апісываюць, як дзе жывуць людзі на эміграцыі. Я напр. не магу дастаць адрас мастака В. Жаўняровіча з Друі, які цяпер жыве ў Парыжы. Мы ня ведаем у Аўстраліі, як паводзіцца нашаму сьпеваку Конюху ў Амэрыцы, хто дзе скончыў які унівэрсытэт. «Б» нумар у нумар апісывае паганую асобу Хрушчова, ды зьбівае яго аклепаныя тэзы, але не дае хронікі. Чаму? *У нас няма прафэсыянальных журналістаў.* Усе вучаць (!).

Д-р Я. М.

АЎСТРАЛІЯ, АЛЬБАНІ: — Хрыстос Уваскрос! Дарагі Ойча, вельмі Вам дзякую за Вашую кніжку! Яна мне дарагая і цікавая, тымбольш, што я даведаўся пра лёс мне дарагіх асоб, як Вас, а. Цікоту, а. Абрантовіча, брата Баговіча. З Вамі я пазнаёміўся яшчэ ў 28 годзе, праз Вашыя кніжкі: «Як Казюк — Казюкова жанімства», «Як Ганулл...» Я імі зачытываўся, чытаў на вечарках моладзі, зашто і дастаў прозьвішча «Казюк».

а. Цікота быў маім дырэктарам у Друі; а. Абрантовіч быў часта ў нас у Дэлятычах. Ягоныя там былі родзічы. Ня раз праводзіў з намі дарагія нам тады часіны, каторыя засталіся мне на ўсё жыцьцё. Такія ўсе людзі, мною ўспомненыя, — сколькі-б яны прынесьлі для нашага гаротнага люду карысьці! А так у цьвеце жыцьця зляжылі свае галоўкі. Усё-ткі няма на сьвеце справядлівасьці!

Можа маеце якія свае выданьні, прышліце, буду вельмі ўдзячны, кошт урэгулюю. Жадаю Вам у гэты сьвяты дзень найлепшага здароўя — яшчэ шмат, шмат год плённай працы для нашае гаротнае Бацькаўшчыны!

Ваш у Хрысьце «Казюк» Ч.

ПОЛЬШЧА, ВРОЦЛАВ: — Каб Вы ведалі, як мы цешымся з Вашых слоў! Няхай-жа яны будуць на славу Божую! 1-га марца а. Тамаш (Падзява) служыў літургію ў Пазнані, запрасіў і мяне, каб я яму памог. Чытаў часы. а. Рэктар змусіў мяне тлумачыць і выясьняць якія часткі наступаюць. Набажэнства прайшло вельмі ўрачыста, тымбольш, што нова-пасьвячаны дыякан Раман Пентка вывязаўся з сваіх абавязкаў надта добра. Да Прычысьця было шмат людзей, а для мяне вялікая радасьць бываць на такой літургіі.

У Польшчы ёсьць усходняга абраду СС. Уршулянкі і Базыліянкі.

Калі можна, прашу Вас яшчэ прыслаць абразікі Вашага 50-лецьця сьвятарства і Кансэкрацыі Б-па Часлава. Мы, як можам, лучымся з Вамі штодзённа ў нашых малітвах.

Ваш Н. Н.

НЬЮ ЁРК: — Часапіс «Б. Шляхам» мы атрымалі. Робіць сымпатычнае ўражаньне. Асабліва Вашы хлопцы на здымцы прыгожа выглядаюць, думаю, што такімі ёсьць і ў сапраўднасьці. Калі там думае Уладыка Часлаў наведаць Амэрыку і што новага на марыянскіх палёх? А. Ш.

КАНАДА, ТОРОНТО: — Бачу, што Вы ўзяліся за цяжкую справу выдаваньня «Божым Шляхам». Выдаваньне нейкага беларускага часопісу на чужыне, — раўняецца выробленьню нормы ў савецкіх лягерах.

У рэдакцыйным артыкуле: «Нашая мэта, надзея і дарога», Вы пакладаеце надзею, так як і кожнае выдавецтва, на падтрымку грамадзтва. Надзея энтузыястычная, а дарога цярністая.

Чытачоў мо' і знойдзецца, крытыкаў яшчэ больш, але падпішчыкаў, ці лепш ахвотнікаў з матар'яльнай дапамогай, дык трэба будзе са сьвечкай шукаць. Вось напрыклад з вялікага Торонто, дзе находзяцца грамадзкія і рэлігійныя цэнтры, я знайшоў, уключаючы і сябе... Ваш П. Р.

КАНАДА: — Дзякую за Ваш ліст! Гутарыў са сп-ом Х. у сувязі з маёй падпіскай на часапіс «Б. Ш.». Я думаю, што і ён дапаможыць, я таксама зраблю свой уклад, калі ідзе аб друкаваньне паэмы, (дапамагу чым толькі змагу), як і ў справе часопісу.

А тымчасам я моцна заняты: працую (далёка працую): усё ляжыць на маім карку.

З пашанаю — Ікс.

*Ад Рэдакцыі:*

Дзякуем усім Дабрадзеям і Прыяцелям, жадаем ім усяго найлепшага ад Госпада Бога і просім прысылаць *адрасы* ўсіх знаёмых Беларусаў, якім будзем слаць «Б. Ш.» рэклямныя нумары. Весткі, якія будзем падаваць з грамадзкага і рэлігійнага жыцьця, а такжа з III Сэсіі Сабору, напэўна ўсіх зацікавяць.

# Духоўныя думкі з кніжак а. Тамаша Мэртона

Маўчаньне і адзінота — гэта найбольшая роскаш жыцьця.

Чым большы будзеш самалюб, тым больш блытаецца тваё жыцьцё.

Мне здаецца, што найбольшым абсурдам на сьвеце — прыгнятацца тым, што я — слабы і няўважлівы, і сьляпы і ўсьцяж мыляюся.

Кожную мінуту жыцьцё пачынаецца нанава. Аман.

Уважай, каб міма волі не затрувацца прыемнасьцяй, якую табе дае твая ўласная праца!

Ты ўпіваешся нюхаючы корак ад бутелькі...

Няма іншай разьвязкі, як чакаць з любоўю і пакорай і любіць сваю недасканаласьць (гэта адносіцца да службы Божай, калі яна доўга не ўдаецца).

Нашае пажаданьне Бога мусіць выйсьці ад Бога і кіравацца ягонай воляй.

Любоў Бога — гэта ўсё. Усё іншае ня мае вартасьці, пакольні ня будзе ператворана і ўзьнята ўгару праз любоў да Бога. А найменшая справа, да якой даткнецца гэтая любоў, зара ператворыцца ўзвыш.

Бог ёсьць любоў, а любоў — гэта неба.

Маліся як можаш і не старайся маліцца як ня можаш.

Што рабіць, калі ты памыліўся? Не пачынай чагосьці зусім новага, але... з любові да Бога зрабі тое самае добра.

Мусім быць прыгатаваны на тое, што блізка заўсёды будзем мыляцца.

Мусім быць здаволены, што ўсьцяж падаем дый ізноў прабуем упакорыць сябе дзеля любові Бога.

Толькі дзеля Бога варта жыць.

«Дзеля ўсякай прыгожасьці сьвету не загубʼлю сябе», так казаў сьвяты Ян ад Крыжа.

УВАГА: **Тамаш Мэртон** пакінуў карʼеру сьвецкага пісьменьніка і ўступіў у суровы закон Трапістаў у Злучаных Штатах Амэрыкі. Цяпер ён — ведамы асцэтычны пісьменьнік.

## З ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ

(Працяг)

АЎСТРАЛІЯ, Н.А.С.: — Чэсьцідастойны і Дарагі Ойча! Выбачайце за недахоп шаблённай формы. Я амаль нявідушчы як выйшаў з гітляроўскага раю. Вашыя «Успаміны» я атрымаў — пазычыў у д-ра М. — ледзь на пару дзён і чытаў іх проста ўсей душою. Няхай Добры Бог пазволіць Табе адправіць як найбольш Рэзурэкцыяў, дасьць Табе шмат фізычнай і маральнай сілы; няхай крапіць Тваю веру ў памыснасьці, як узмацняў у нялюдзкай зямлі у галечы і недастачы.

Колькі разоў углыбляюся ў сваю душу, заўсёды пачуваюся няўдзячным даўжнікам у Бога. Калісьці ў няволі амаль каждая мая мінута была малітвай. А як выйшаў з няволі, нават не спасьцярогся, як разбаламуціўся. Сяньня ўжо цяжка сканцэнтраваць сваю думку нават на штодзённай вячорнай малітве. Ведаеш? Часам чалавек кладзецца ў ложка як сьв... і нават не знайходзіць двух слоў падзякі Богу. Каб яшчэ раз прыйшоў этап Боскай пробы і чалавек мусеў зноў зьвярнуцца да Бога аб помач, дык мэг-бы толькі паклікацца на сваю бессаромнасьць. Разглядаю сваіх прыяцеляў. Выбачце! — аказываецца, што гэтая халоднасьць ёсьць паўсюдная. Мы, славяне, вельмі набожныя пад палкай, але хопіць нам стварыць хоць цень памыснасьці, каб увагнаць нас у абоймы паганства.

У 1939 г. я атрымаў некалькі ран і праляжаў больш дзьвёх гадзін. Каля 15 мінут быў прытомны. Чаго я тады Богу не абяцаў? Відаць, што Бог выслухаў маю малітву, бо жыву. Добра, што прынамсі не абяцаў цэлібату і кляштару...

У інтэнцыі душы а. Андрэя (Цікоты) я малюся. Аднак думаю, што мы больш патрабуем, каб ён заступаўся за намі перад Богам, як каб мы маліліся за яго.

«Успаміны» гэта твор векапомны: такіх літэрацкіх талентаў Бог абыкаму ня кідае, а марнатраўства талентаў — вялікі грэх перад Богам, Праўдай і Чалавецтвам. Бог ведаў, нашто Цябе вывеў з «Дому Няволі».

НАС.

АНГЛІЯ, БІРМІНГАМ: — Перасылаю Вам 30 ш. на падпіску часапісу «Б. Ш.». Вельмі мне прыемна атрымоўваць зноў гэты часапіс. У мінулым я яго чытаў ад дошкі да дошкі зь вялікай прыемнасьцяй. Я люблю яго зьмест і чыстую нашу мову, якой ён пісаўся, а спадзяюся, што і будзе пісацца. А. Б.

## ЖАРТЫ І ПРЫКАЗКІ

*На мітынгу ў Маскве* астранаўты расказывалі: «Як мы лятали наўкол зямлі, дык пільна прыглядаліся, але нідзе ня ўбачылі Бога. Значыць, Бога няма ні на зямлі, ні на небе, а ўсё устроіла сама прырода».

*Голас з народу:* «А прыроду вы там бачылі?»

Астранаўты паглядзелі адзін на другога і ня мелі чаго сказаць.

А. — Чаму камуна ня прызнае Хрыста? То-ж Хрыстос хацеў зраўнаваць людзей і камуна хоча зраўнаваць людзей...

Б. — Хрыстос хацеў зрабіць гэта па Божай праграме, а камуна — па чартоўскай.

*Новыя прыказкі:*

Камуна скача, а народ плача.
Бога праганяюць, а хлеб сам уцякае.

*Сынок да маткі:*

— Мама, ты казала, што Бог стварыў рай, а вучыцелька казала, што Ленін стварыў рай...

*Матка:*

— Ах, сынок! Там людзі плакалі, як Бог іх выганяў з раю; а тут плачуць, што чэрці іх ня пускаюць з «раю».

*Вінцук Адважны*

# Байкі

(паводле Крылова)

## КВАРТЭТ

Мядзьведзь, асёл,
Скакуха налпа і казёл
Зьдзівіць хацелі сьвет —
Злажыць квартэт.

Там быў і бас і альт, дзьве скрыпкі:
Заселі на лужку пад ліпкі
І рэзнулі, што сілы у плячах!
Дык выйшла музыка — аж страх...

— Стой-стой! — крычыць асёл: — Мы пашалелі,
Ня так, ня так паселі!
Казёл, сядзь з скрыпкай насупроціў,
Ты, альт, каб нам ня псоціў,
Лезь зара ў кут —
Вось тут!
Я-ж сам — на басе, —
Зайграем мы як на Парнасе.
Каманду я даю хвастом:
Як заравём,
Падскочыць, хто пачуе —
Аж лес з гарою затанцуе! —

Парадкам селі новым,
А музыка — хто ў лес, а хто па дровы...

Крычыць казёл: — Мы лепш парадзім,
Калі радочкам сядзем! —

Хоць сем разоў перасядалі,
Парадку не згадалі.
Пайшлі ў іх спрэчкі, сваркі,
Круціліся як на патэльні скваркі...

Аж міма тых гасьцей
Стрымаўся салавей.
— Мілюсенькі! — Зьвяры давай прасіць:
Ці можаш радай удружыць,
Бо ты — пясьняр сам — буйны у прыродзе,
А мы тут месца не знаходзім:
Сядалі мы на ўсе лады,
А музыка анікуды!
— Гэй, гэй! —
Ім кажа салавей: —
— Да музыкі мець трэба іскру духа
І лепшае як ваша вуха. —
Дарэмныя за месца спрэчкі,
Калі бляеце як авечкі... —

*

Бывае так: жыцьцё — турма,
А салаўя няма!
Было іх, праўда, маса,
Але пайшлі на мяса:
Цяпер у новым раі
Артысты — папугаі...

## ЗЕМЛЯРОБ І ЗЬМЯЯ

Улезшы ў хату раз, зьмяя
Суседу кажа: — Я
Цяпер зусім другая:
Зыйшла з мяне старая
І благая жыла,
Як скуру я перамяніла.
Дый гаспадар хапіў абух,
«Хоць нова, кажа, скура,
Твая зьмяіная натура».
І выбіў зь яе дух.

*

Рэклямай нас не праканаеш,
Калі зьмяіна сэрца маеш.

## САБАКА І КОНЬ

Сабака й конь у дзядзькі працавалі
І кажны свае жалі
Хацеў сказаць-пабачыць,
Чыя там праца болей значыць?

Сабака кажа: — Я гарую:
Днём быдла ў полі старажую,
А ў ночы дом і вас пільную. —
А ты гарэш і воз цягаеш,
А лепш ясі і больш гуляеш...

Конь кажа: — Ўсё праўдзіва.
Аднак мне дзіва,
Бо што-б ты дома пільнаваў,
Каб я у полі не гараў? —

*

Работнік наш гуляе ў горы,
А стогнуць кантралёры.

---

Наша вёска называецца *Прыдуркі*. Раз агітатар доўга тлумачыў, што Бога няма.

Адзін прысутны пытаецца:

— Ну, а чорт ці ёсьць?

Агітатар:

— Калі Бога няма, дык і чарта няма!

Другі прысутны:

А ў суседзкай вёсцы галасавалі, што чорт павінен быць...

Агітатар:

— Ну, значыць, што яны самі — чэрці і выдумалі чорт ведае што!

Трэйці прысутны:

— Па-мойму, таварыш аратар, калі чарцей няма, дык чорт іх бяры! А калі чэрці ёсьць, дык ня дай, Божа!..

## ДАНТЫСТ

Прыемна з чужой губы
Рваць зубы.

*Мядзьведзь, як ажаніўся,*
*На дохтара вучыўся:*
*Сядзіць пры кніжцы ў хаце*
*І зубы б'е дзіцяці.*

*«А гэта што за ліха?»*
*Крычала медзьвядзіха.*
*Мядзьведзь, як гэта чуе,*
*«Я, кажа, практыкую».*

Вінцук Адважны

## МІЖ ДЫПЛЯМАТАМІ

(Фэльетон).

**Заходні:** — Вашыя выбары — гэта толькі форма: у вас адна партыя і ведамыя кандыдаты; усёроўна праходзяць тыя, якіх вы вызначаеце. Дык нашто вы дарма траціце час, грошы і нэрвуеце людзей?

**Усходні:** — Гэта вы нэрвуеце людзей! У вас спрэчкі, партыі: перацягваеце кажны на свой бок, гадаеце, хто выйграе і г. д. — А ў нас — поўны супакой: людзі ведаюць, што ўрад іх не ашукае, ідуць на выбары як на сьвята! Тады даецца вольны дзень і...

**Заходні:** — Дзякую! я разумею. Але гэта трэба назваць «в е ч н ы» супакой і поўны адпачынак: значыць, чалавек-грамадзянін п а м ё р !

**Усходні:** — Што вы гэтым хочаце сказаць?

**Заходні:** — Тое, што сказаў. Я цяпер разумею ўсю вашую сыстэму: для «спакою нэрваў» людзей запіхаюць у калгас, каб ня трэба было шукаць працы,прыпісываюць да фабрык, скасавалі забастоўкі і г. д. І таксама абвяшчаюць працэнты прадукцыі: усёроўна народ ведае, што гэта няпраўда і... цешыцца прыбыткам — мае поўны супакой нэрваў.

**Увага:** А мы разумеем, чаму камуна абвесьціла, што **Хрыстос** ня існаваў: калі-б Хрыста ня было, дык Ягоныя загады ня маюць сілы і камуністычны ўрад можа рабіць, што хоча: выдаваць тыранскія законы, караць людзей бяз судоў і г. д.

## ПРЫКАЗКІ

Як у мяне пшонка ўдалася, адкуль і радня ўзялася; як у мяне пшонка не ўрадзіла, адраклася і радзіна.

Як хто хоча, так па свойму гору плача.

Ясьлі да каня ня ходзяць.

Яшчэ той не радзіўся, хто-б усім дагадзіў.

## З беларускай прэсы

**ЗЬНІЧ.** — Нумар Калядны 1963 г. Вонкавы выгляд часапісу вельмі ўдалы, фатаздымкі як жывыя! А Біскуп Б. Сьлёсканс спэцыяльна паглядае на чытачоў. Выглядае на гадоў 40, а тымчасам даведаваемся, што скончыў 70! Калі так, дык можна спадзявацца, што лёгка пераажыве яшчэ гэтулькі. МНОГАЯ ЛЕТА! Увесь нумар дыхае САБОРАМ: відаць, што сам Рэдактар жыве і працуе ў Рыме ў духу Сабору. Артыкул аб савецкім сьветаглядзе моцны, цікавы і пераконывае чытача. Верш «Новы Год» Я. Купалы палае агнём.

**ЗЬНІЧ.** — Нумар 75, Студзень—Люты, 1964. Рым. Нумар пасьвячаны Пілігрымцы Папы Паўла VI-га ў Сьвятую Зямлю.

**ЗЬНІЧ.** — Нумар 76, Сакавік—Травень, 1964. Нумар пасьвячаецца памяці Кс. Віктара Шутовіча. Арт. В. Карасевіча — «З нагоды атрыманых вестак аб сьмерці» а. Шутовіча ў Барысаве.

**ВЕХІ.** Студзень, 1964. Ворган Бел. Поступ. Думкі. № 10. Нумар пісаны жывой, энэргічнай мовай і праняты патрыятычным духам. Цікавая вестка аб Дастаеўскім і вобразны фэльетон.

**БАЦЬКАЎШЧЫНА.** Сакавік, нумар 3—4, 1964 г. Замешчана Вялікоднае Архіпастырскае Пасланьне Апостальскага Візытатара для Беларусаў-Каталікоў Уладыкі Часлава Сіповіча.

Нумар пасьвячаны сьвяткаваньню Ўгодкаў 25-га Сакавіка 1918 — 1964 — Незалежнасьці Беларусі.

**БЕЛАРУСКІ ГОЛАС.** Нумар 115, Сакавік 1964 г. «У Сорак Шостую Гадавіну 26-га Сакавіка 1918 — 1964 г.».

**СІЛА ВЕРЫ.** — Часапіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. Чыкага, 1964 г., нумар 17. *«Хрыстос уваскрос!» — «Запраўды уваскрос!» Амін!*

— ◇ —

### КНІЖКІ Ў РЭДАКЦЫІ:

а. Я. Гэрмановіч — «Успаміны» — «Кітай—Сібір—Масква» — 3,00 $.

І. Н. — Lemantar — Лемантар лацінкай і кірыліцай, 1,20 $.

Вінцук Адважны — «Князь і Лапаць», паэма — 2,50 $.

УВАГА:

Кніжкі можна заказываць паводле тыхсамых адрасоў, што паказаны ў часапісе «Божым Шляхам».

*«Успаміны»* ўжо вычэрпываюцца.

*Лемантар* неабходная кніжыца ў кожнай беларускай сям'і. Добра апрацаваная і старанна выданая. У Эўропе заказываць у Рэдакцыі «Божым Шляхам»:

*«Князь і Лапаць»:* Кніжка толькі выйшла з друку. Тут апісана сям'я, якая зложылася ў Амэрыцы — гэта «старая эміграцыя» — пасьля выехалі на Усход. Там перайшлі праз вялікую блытаніну і... сям'я разьбілася.

Праз такую страшэнную трагэдыю прайшло нямала нашых суродзічаў. Гэтая «Сучасная Казка» напісана вобразнай, жывой беларускай мовай.

